# Ізноў на красавіцкіх гонях шчыруе новая вясна

*Фотаздымак зроблены ўчора на палетках Баранавіцкага раёна.*
*Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.*





*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## СЯЎБА НАСТАЕ...

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, да сяўбы ўжо прыступілі паўднёвыя рэгіёны Беларусі. Так, паводле апошніх даных, у Брэсцкай вобласці збожжавымі засеяна каля 5,5 тысячы гектараў (3 працэнты планавага паказчыка). Пачалі сяўбу і на Гомельшчыне, але апрацаваныя плошчы там пакуль вельмі невялікія — 0,1 працэнта да плана. Дзесьці два дзесяткі гектараў значыцца і за паўднёвымі раёнамі Міншчыны. У цэнтральнай частцы Беларусі, як лічаць спецыялісты Мінсельгасхарча, веснавыя палявыя работы актыўна пачнуцца толькі напрыканцы тыдня.

Паводле паведамленняў сіноптыкаў, нас чакае пацяпленне, у сувязі з чым клопатаў перш за ўсё паболее менавіта ў вяскоўцаў. Час сеяць...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА БУДЗЕ ЎКАМПЛЕКТАВАНА НА 100 ПРАЦЭНТАЎ. ПРЫНАМСІ, У ВЕСНАВЫ ПРЫЗЫЎ

У красавіку мясцовым органам ваеннага кіравання Беларусі спаўняецца 80 гадоў. З нагоды юбілею начальнік арганізацыйна-мабілізацыйнага ўпраўлення Галоўнага штаба Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь генерал-маёр Міхаіл КАВУРЫН правёў прэс-канферэнцыю.

***Даведка «Звязды»***

Да мясцовых органаў ваеннага кіравання адносяцца абласныя, гарадскія і раённыя камісарыяты, якія з'яўляюцца воінскімі ўстановамі Міністэрства абароны рэспублікі.

У выніку рэфарміравання і скарачэння Узброеных Сіл павялічылася іх мабілізацыйная патрэбнасць. У гэтых умовах у ваенных камісарыятаў з'явілася шмат праблем. Апошнім часам узніклі складанасці ў вядзенні ўліку грамадзян, якія працуюць у недзяржаўнай галіне. На многіх прадпрыемствах воінскі ўлік увогуле не вядзецца. Прыём грамадзян на працу ажыццяўляецца без пастаноўкі на воінскі ўлік і без рэгістрацыі па месцы жыхарства. Рэзка знізілася асабістая ўлікова-воінская дысцыпліна грамадзян, якія знаходзяцца ў запасе.

Хапае праблем і з прызывам. Напрыклад, восенню 1997 г. было прызвана на тэрміновую службу ў войска каля 17 тысяч чалавек. У той жа час прызыўную камісію праходзілі больш як 60 тысяч юнакоў! З іх 54,3 працэнта атрымалі адтэрміноўку, 27 працэнтаў — па стану здароўя. З прызваных юнакоў 40 працэнтаў атрымалі I і II ступень годнасці (вышэйшая). Аднак большасць «заклеймавалі» V ступенню. Як гавораць самі вайскоўцы, V ступень — толькі што не інваліды.

Калі ўлічыць, што права першага выбару належыць пагранічным і ўнутраным войскам (бяруць, натуральна, лепшых), няцяжка прыкінуць, хто трапляе ва Узброеныя Сілы. Праблемы з камплектацыяй войска бываюць звычайна ў восеньскі прызыў. Часам прыходзіцца браць нават судзімых. Зараз такіх салдатаў у арміі недзе каля 1400. «Пагоду», як прызнаюць самі вайскоўцы, судзімыя псуюць, часам даволі сур'ёзна.

Прэзідэнт Беларусі ўжо аддаў загад аб чарговым прызыве на вайсковую службу ў маі—ліпені 1998 года. Усяго плануецца прызваць недзе каля 17 тысяч чалавек, з іх 12 тысяч — ва Узброеныя Сілы. Рэсурсы дазваляюць на 100 працэнтаў задаволіць усе заяўкі, нават не прыцягваючы судзімых. На пытанні журналістаў аб альтэрнатыўнай службе генерал Кавурын заявіў, што праект Закона аб воінскім абавязку ўжо распрацаваны і хутка павінен быць прыняты. Законам прадугледжана служба ў рэзерве і альтэрнатыўная служба.

Згодна са статыстыкай, падчас восеньскага прызыву мінулага года ў ваенкаматы не з'явіліся 674 чалавекі. Лічба хоць і невялікая, аднак сведчыць пра пэўную тэндэнцыю — з'ява «ўхілізму» ў нас існуе.

Міхаіл Кавурын запэўніў, што тэрміны службы ў бліжэйшы час павялічвацца не будуць. Па словах генерала, наадварот, ходзяць размовы, каб скараціць тэрмін службы для некаторых катэгорый грамадзян. Напрыклад, разглядаецца варыянт увядзення ваенных кафедраў ва ўсіх ВНУ для ўсіх студэнтаў-юнакоў. Усе яны будуць вучыцца 1 год. Па заканчэнні гэтага тэрміну лепшыя працягнуць вучобу і атрымаюць афіцэрскае званне. Астатнія пасля заканчэння ВНУ будуць ужо служыць не 1 год, а, напрыклад, 6 месяцаў.

Увогуле, лічыць начальнік арганізацыйна-мабілізацыйнага ўпраўлення, «галоўнае ў армейскай службе — прайсці ваенную падрыхтоўку, а не адбыць пэўны тэрмін».

**Сяргей ПРОТАС.**

*ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Хочаце верце, хочаце не, але на наступны дзень пасля таго, як індзейскія шаманы прамовілі рытуальныя закляцці, заклікаючы дождж на ахопленыя пажарамі лясы Амазоніі, дождж сапраўды пайшоў — першы пасля паўгода вельмі цяжкай засухі. Даволі моцныя ападкі, якія працягваліся каля чатырох гадзін, падавілі, па падліках спецыялістаў, прыкладна 80 працэнтаў загарання ў лясах і ў саване. Зразумела, гэта не значыць, што небяспека мінула канчаткова і поўнасцю. Пажары, якія нанеслі катастрафічны ўрон эканоміцы Бразіліі і знішчылі лясныя масівы на плошчы 600 тысяч гектараў, могуць узнавіцца.

**Асашыэйтэд Прэс**

*Палата прадстаўнікоў ЗША адобрыла законапраект, які забараняе продаж прадукцыі, якая ўтрымлівае якія-небудзь часткі арганізма тыгра і насарога. Тым жа дакументам забаронены ўвоз у ЗША такога роду прадуктаў. Для тых, хто парушыць новыя правілы, прадугледжана даволі суровае пакаранне — штраф да 25 тысяч долараў і турэмнае зняволенне тэрмінам да 1 года. На працягу ўсяго XX стагоддзя тыгры і насарогі па-драпежніцку вынішчаліся. У выніку пагалоўе насарогаў скарацілася з аднаго мільёна на пачатку стагоддзя да прыкладна 11 тысяч, а папуляцыя тыграў налічвае зараз усяго 5 тысяч, тады як 100 гадоў таму іх было больш за 100 тысяч.*

**Асашыэйтэд Прэс**

Сама меней для трэці мужчынскага насельніцтва Італіі адносіны мужа і жонкі з'яўляюцца галоўнай крыніцай... стрэсаў. Нішто ім так не атручвае жыццё, як любімыя жонкі. Тут і бясконцыя капрызы, неўладкаванасць сямейнага ачага, празмерныя грашовыя запатрабаванні ды плюс да ўсяго яшчэ і істэрыкі. Не ў кожнага нервы вытрымліваюць. Але, як паказала даследаванне, затое крыніцай станоўчых эмоцый для італьянцаў, як правіла, служаць тэлевізійныя вядучыя-жанчыны, якія заўсёды ўсміхаюцца і ніколі нічога не патрабуюць.

**ІТАР-ТАСС**

*«...каб не ўмёрлі!»*
**Ф. БАГУШЭВІЧ**

*КОНКУРС САЧЫНЕННЯЎ-ЛІСТОЎ*

## «НЕ ПАКІДАЙЦЕ Ж МОВЫ НАШАЙ БЕЛАРУСКАЙ...»

Амаль сто гадоў таму назад, як Францішак Багушэвіч звярнуўся да паняволенага беларускага народа з вершамі на яго мове, з палымянымі словамі: «...мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая... Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам... Яно добра, а нават і трэба знаць суседзкую мову, але найперш трэба знаць сваю... Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!..»

Пастарайцеся і вы, дзеці, знайсці пераканаўчыя словы ў абарону роднай мовы і звярніцеся з імі да каго пажадаеце (сваіх бацькоў, знаёмых ці ўвогуле любых начальнікаў). Запрашаем да конкурсу вучняў 4—11 класаў. Дзеля выяўлення вашых пачуццяў аб'ём сачынення-ліста не абмяжоўваецца. Можна даць яму назву ці ўказаць адрасат, напісаць прозай ці вершам, у форме малітвы ці заклінання, заклікy ці просьбы. Жадаем вам смеласці і творчасці, натхнення і вынаходлівасці.

Той, хто пажадае афарміць творчую работу хутчэй, увойдзе ў лік удзельнікаў 1-га конкурсу, вынікі якога будуць падведзены 1 чэрвеня, а 2-га конкурсу — 14 верасня 1998 г. Пераможцы атрымаюць граматы, ільготныя пуцёўкі ў лагеры адпачынку, у тым ліку ў Балгарыю і Чэхію (з 03.09 па 03.10, з 03.11 па 30.12.98 г.), іншыя падарункі. Узнагароды атрымаюць і самыя актыўныя настаўнікі. Найбольш цікавыя работы будуць надрукаваны ў часопісах і газетах.

Прысылайце свае лісты з указаннем прозвішча і імя свайго і свайго настаўніка, класа і школы, дакладнага адраса і тэлефона на адрас: ***ТБШ, Някрасава, 5а, Мінск, 220040. Тэлефон для даведак: (017) 232-47-01.***

**Таварыства беларускай школы.**

*Футбол. Першыя сусветныя юнацкія гульні*

## БЕЛАРУСЫ — У ЕЎРА-АФРЫКАНСКАЙ ГРУПЕ

У Маскве з 7 па 18 ліпеня пад эгідай УЕФА пройдуць Першыя сусветныя юнацкія гульні з удзелам 16 каманд свету. Згодна з рэгламентам, на турніры могуць выступаць юнакі, не старэй чым 1981 года нараджэння. Фіналісты маскоўскіх гульняў вызначыліся па рэйтынгу юнацкіх спаборніцтваў ФІФА.

У спісе шчаслівўчыкаў і зборная Беларусі. Жараб'ёўка, якая адбылася нядаўна, занесла нашых юных футбалістаў у групу «В» разам з камандамі Партугаліі, Фінляндыі і Ганы. Астатнія 12 зборных разбіты яшчэ на тры дывізіёны. Група «А»: Славакія, Літва, Катар, Мексіка. Група «С»: Расія, Латвія, Чылі, Саудаўская Аравія. Група «D»: Польшча, Турцыя, Грузія, ЗША.

Канчатковы расклад матчаў турніру будзе вызначаны пазней, хоць ужо сёння вядома, што гульні папярэдняга этапа пройдуць 7, 9 і 11 ліпеня па кругавой сістэме. Фінал назначаны на 18 ліпеня.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ШАХМАТЫ

*Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА*

### ГАДАВЫ КОНКУРС РАШЭННЯЎ

**Заданне № 13**
**П. КАНДРАЦЬЕЎ** (Расія)




**Белыя:** Крe6, Фh1, Лd8, Кd3, Кd5 (5). **Чорныя:** Крd4, п.с4 (2). **Мат за 2 хады.**

**Заданне № 14**
**В. СУРКОЎ** (Расія)




**Белыя:** Кра4, Фа5, Се8, Кf5 (4). **Чорныя:** Крe6 (1). **Мат за 4 хады.**

### ВЫНІКІ МІНУЛАГА КОНКУРСУ РАШЭННЯЎ

Падведзены вынікі гадавога конкурсу рашэнняў за 1997 год. У ім удзельнічалі больш за 40 рашальнікаў. Трэба адзначыць, што больш паловы з іх страцілі ачкі пры рашэнні эцюдаў.

Да фінішу паспяхова прыйшлі наступныя ўдзельнікі: Аляксандр Кіслы (г. Узда), які набраў 72 ачкі, Аляксандр Кароль — 71 ачко, Фёдар Рашэцкі (г. Рагачоў) — 63 ачкі, Леанід Ахрэм (Мінск) — 63 ачкі, Сяргей Гурыновіч (Мінск) — 62 ачкі, Іван Козел (Мазырскі раён) — 60 ачкоў. Яны ўзнагароджваюцца літаратурай.

Астатнія ўдзельнікі гадавога конкурсу рашэнняў набралі менш за 50 ачкоў.

### ЗАПРАШАЕМ ДА КОНКУРСУ

Рэспубліканская камісія па шахматнай кампазіцыі пры федэрацыі шахмат Беларусі праводзіць юбілейны конкурс, прысвечаны міжнароднаму майстру Вацлаву Гебельту (г. Ліда) па наступных раздзелах:

а) трохходовыя задачы на свабодную тэму (суддзя — юбіляр);

б) задачы на кааператыўны мат за 3 хады (суддзя Ю. Гардыян, г. Адэса).

Задачы на дыяграмах з поўным рашэннем у двух экземплярах дасылайце да 15 жніўня г. г. на адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10А, рэдакцыя газеты «Звязда».

### ШАХМАТНАЯ НАВІНКА

Выйшла ў свет кніга па шахматнай кампазіцыі (60 стар. 279 дыяграм) «Задачы. Эцюды. Артыкулы» Мікалая Міраненкі (Харкаў).

Па пытаннях набыцця зборніка пішыце на адрас аўтара: Украіна, 310177, г. Харкаў-177, вул. Залочэўская. 28А, к. 34, Міраненку Мікалаю Іванавічу.

## АД КРАСАВІЦКАГА СНЕГАПАДУ ПАЦЯРПЕЛІ... БАНКІРЫ

**Работа крэдытнага аддзела Магілёўскага філіяла «Белбізнесбанка» паралізавана на некалькі дзён.**

У выхадныя дні са столі абваліліся вялізныя кавалкі тынкоўкі, у выніку чаго пашкоджаны камп'ютэры, аргтэхніка, дакументы, мэбля... Але супрацоўнікі крэдытнага аддзела, напэўна, дзякуюць Богу, што тынкоўка абвалілася не на іх галовы і... клянуць на чым свет стаіць будаўнікоў, якія, відаць, не маюць звычкі цікавіцца прагнозам сіноптыкаў.

Справа ў тым, што ў будынку, дзе размешчаны банк, зараз вядуцца рамонтныя работы, якія напярэдадні выхадных дзён нарэшце дайшлі да даху. Будаўнікі фактычна яго знялі, а ў суботу ў Магілёве пайшоў дождж і мокры снег. Вось тынкоўка і не вытрымала націску «красавіцкай стыхіі». А ў Магілёве зараз жартуюць, што ў банка «паехаў дах»...

**Ілона ІВАНОВА.**

## ЗЛОДЗЕЙ ПАВІНЕН СЯДЗЕЦЬ...

Крадзяжы ў грамадзян, на заводах, установах сур'ёзна адбіваюцца не толькі на настроі людзей, але і на вытворчых паказчыках. Усяго ў мінулым годзе іх было ўчынена больш як 58 тысяч, а раскрывальнасць іх складае не больш чым 51,2 працэнта. Крадзеж — гэта тайнае выкраданне маёмасці. Але часам злачынца, ведаючы псіхалогію абывацеля, так адкрыта робіць сваю справу, што тайнымі яго дзеянні можна назваць хіба што з вялікай нацяжкай. Відаць, на нядбаласць разлічваў і злодзей, які зазірнуў у навуковы інстытут, што па вуліцы Варвашэні. І яго «паход» быў бы паспяховым, калі б не аказаўся побач работнік міліцыі. Намеснік начальніка аддзела аховы Цэнтральнага раёна Мінска ў вольны час ішоў па хатніх справах. Яго ўвагу прыцягнуў глухі гук цяжкіх сумак, якія ўпалі за агароджай інстытута. Прахожыя не звярнулі на гэта ўвагі. Чэслаў Супраковіч заўважыў, што на трэцім паверсе адчынена акно. Здагадка, што груз быў скінуты адтуль, пацвердзілася. Праз хвіліну работнік міліцыі заўважыў і злодзея, які падбег да сумак. Незнаёмца міліцыянер затрымаў. У сумцы аказалася шэсць пажарных рукавоў, кошт якіх ацэньваецца больш чым у 20 мільёнаў рублёў. Узбуджана крымінальная справа.

**Васіль КУРЛОВІЧ.**

### СЁННЯ

**Сонца**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.29 | 19.55 | 13.26 |
| Віцебск – | 6.17 | 19.47 | 13.30 |
| Магілёў – | 6.18 | 19.44 | 13.26 |
| Гомель – | 6.15 | 19.41 | 13.26 |
| Гродна – | 6.42 | 20.12 | 13.30 |
| Брэст – | 6.47 | 20.08 | 13.21 |

**Месяц**

**Першая квадра 3 красавіка**
***З 14.26 – 12-я месяцавыя суткі.***
***З 16.26 Месяц у сузор'і Дзевы.***

**Імяніны**

**Пр. Ціхана**
**К. Яна, Руфіна**

**Надвор'е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, па ўсходняй палавіне рэспублікі кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 4—6, Гомелі — 5—7, Мінску — 6—8, Гродне — 9—11, Брэсце — 10—12 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, 8-га па большай частцы тэрыторыі, 9-га — па паўночнаму ўсходу ападкі, пераважна дождж. Тэмпература 8-га ўначы — 0—плюс 5, 9-га — мінус 2—плюс 3, удзень — 5—10, 8-га па паўднёваму ўсходу да 14 градусаў цяпла.



*ПОГЛЯД*

# ШЛЯХ ТАЙВАНЯ

## III. САКРЭТЫ «МАЛЕНЬКАГА ДРАКОНА»

Ганконг, Сінгапур, Паўднёвую Карэю і Тайвань у заходнім свеце (прычым не толькі эканамічным, але і палітычным) хтосьці – удала ці не – ахрысціў на першы погляд абразлівым, аднак даволі трапным выразам-характарыстыкай – «маленькія драконы». А маецца пры гэтым на ўвазе найперш тое, што, пачаўшы па сутнасці з нуля, ім удалося дасягнуць такога развіцця, якое наблізіла кожнага з гэтай чацвёркі да самых што ні ёсць індустрыяльна развітых дзяржаў свету.

Ну хіба можна пасля гэтага крыўдаваць на «нейкага» там «дракона»?!

Ім, «драконам», няхай сабе і маленькім, Тайвань стаў па сутнасці за чатыры дзесяцігоддзі. Такі кароткі перыяд сапраўднага эканамічнага росквіту па праву можа заняць ганаровае месца ў Кнізе рэкордаў Гінеса.

Супрацоўнік дэпартамента замежных спраў Тайваня Грэгары Ліу, які доўга і ахвотна быў маім субяседнікам (прычым субяседнікам надзвычай цікавым і эмацыянальным), не без гонару і годнасці за свой край падрабязна апавядаў пра вытокі і шлях тайваньскага цуда. Менавіта цуда: гэта слова Грэгары ўжываў без нейкай там унутранай фанабэрыстасці ці жадання перабольшыць, пераацаніць тое, што зрабілі, чаго дасягнулі ў жыцці ягоныя сціплыя і працавітыя землякі.

Найперш спадар Ліу прадэманстраваў мне даныя з самай што ні ёсць аўтарытэтнай афіцыйнай крыніцы. Дык вось: у апублікаваным летась спецыяльным рэйтынгу, што быў падрыхтаваны вядомым фондам Хэрытыдж і часопісам «Уолстрыт джорнэл», Кітайская Рэспубліка (на Тайвані) заняла ганаровае месца ў першай дзесятцы краін свету – сярод такіх, як Злучаныя Штаты і Вялікабрытанія, Новая Зеландыя і Швейцарыя, Бахрэйн і Сінгапур... А крытэрыямі вызначэння той квітнеючай дзесяткі былі ўзроўні развіцця і дасканаласці гандлёвай, падатковай і манетарысцкай палітыкі, памеры замежных інвестыцый, велічыня дзяржаўнага заказу (маецца на ўвазе, вядома ж, мінімальная велічыня) у агульным аб'ёме вытворчасці, ступень кантролю дзяржаўных органаў кіравання за ўзроўнем заработнай платы і цэнамі, правам на ўласнасць... Яшчэ адзін крытэрый – памеры і стан чорнага рынку – я, шчыра прызнаюся, так і не зразумеў, аднак Грэгары Ліу папрасіў пісаць гэта слова без нашага «традыцыйнага» двукосся. Што я і раблю... Дарэчы, фонд і часопіс надзвычай падрабязна даследавалі звыш 150 краін свету, так што трапіць у дзесятку выпадкова наўрад ці хто змог.

Сёння Тайвань стаіць на рэальным шляху паскоранай глабалізацыі. Як трэці па значэнню пастаўшчык на сусветны рынак камп'ютэрнай тэхнікі, ён ужо адыгрывае ключавую ролю ў сучаснай глабальнай эканоміцы. Партатыўнымі камп'ютэрамі і графічнымі картамі востраў забяспечвае свет на трэць, маніторамі, сканерамі, мацярынскімі платамі і клавіятурай – ажно на дзве трэці! Штогадовы прырост камп'ютэрнай вытворчасці дасягае амаль 30 працэнтаў. Тут налічваецца не адзін дзесятак зборачных заводаў самых знакамітых сусветных фірмаў і канцэрнаў, а таксама каля 900 – мясцовых вытворчасцяў. Між іншым, большая частка тайваньскай камп'ютэрнай тэхнікі ідзе не ў якія-небудзь «трэція» краіны свету, а ў Злучаныя Штаты Амерыкі, Японію, Ганконг. І гэты факт, безумоўна, гаворыць сам за сябе...

– Развіццё інфармацыйных і камп'ютэрных тэхналогій, – даводзіў мне тайваньскі дыпламат Грэгары Ліу, – гэта адзін з верагодных накірункаў ператварэння Кітайскай Рэспублікі (на Тайвані) у даволі істотны састаўны кампанент эканамічнага росквіту ў Азіяцка-Ціхаакіянскім рэгіёне. Гісторыя не-не ды і зробіць нейкі неверагодны выкрунтас, аднак... – Тут мой субяседнік на момант задумаўся, нешта прыкідваючы ў памяці ці, верагодней за ўсё, збіраючыся з думкамі: – Важнай састаўной часткай міжнароднай супольнасці, як вы, думаю, пераканаліся, Тайвань ужо стаў. Надалей жа яму – і нашы людзі ў гэтым не сумняваюцца – будзе адведзена яшчэ больш істотная роля.

Наколькі ж гэта так?

Сённяшні свет – цывілізаваны і свабодны – паскоранымі тэмпамі рухаецца да лібералізацыі і інтэрнацыяналізацыі. Палітолагі, прадстаўнікі той дысцыпліны, якой у нас – па-ранейшаму – так нестае ўвагі і павагі – лічаць: XXI стагоддзе, што вось-вось заступіць «на вахту», стане часам жорсткага, незвычайна жорсткага, саперніцтва і процістаяння. І найперш – у канкурэнтаздольнасці дзяржаў, узроўні развіцця тэхналогій. Кажучы больш сцісла, менавіта ад узроўню канкурэнтаздольнасці і будзе залежаць само існаванне той ці іншай краіны, яе месца на сусветным эканамічным рынку, адпаведнае часу развіццё.

Знаходзячыся на Тайвані, я зразумеў, што называецца, на ўсе сто працэнтаў, на маю думку, надзвычай важнае: гэты выклік XXI стагоддзя там разумеюць яскрава і выразна.

Вось лічбы – тыя, супраць якіх сказаць што-кольвечы практычна немагчыма. Валавы ўнутраны прадукт Кітайскай Рэспублікі (на Тайвані) склаў у 1996 годзе 273,1 мільярда долараў ЗША. Гэта – 19-е месца ў свеце. Гадавы прырост яго роўны 8,50 працэнта. Валавы ўнутраны прадукт на душу насельніцтва – 12.774 долары ЗША. (Для параўнання: у Беларусі ён роўны 1000 $.) Агульны аб'ём знешняга гандлю роўны 217,2 мільярда долараў – гэта, дарэчы, пятнаццаты паказчык у свеце. Больш таго, па рэзервах замежнай валюты – 88 мільярдаў долараў ЗША – Тайвань займае трэцяе месца ў свеце.

У адпаведнасці з агульнапрынятымі ў свеце крытэрыямі, галоўнымі фактарамі, што вызначаюць канкурэнтаздольнасць той ці іншай краіны, з'яўляюцца: унутраная эканамічная магутнасць, ступень глабалізацыі, эфектыўнасць дзейнасці ўрада, фінансавая магутнасць дзяржавы, становішча інфраструктуры, прафесіяналізм менеджменту, узровень развіцця тэхналогіі, стан людскіх рэсурсаў і якасць жыцця насельніцтва. Тайваньцы ж дадаюць сюды яшчэ два ўласныя фактары: стан сваіх адносінаў з мацерыковым Кітаем і сацыяльную стабільнасць.

На сваё становішча насельнікі вострава глядзяць аб'ектыўна і цвяроза, аднак выказваюць думкі смела і рашуча. Інфраструктура, сцвярджаюць яны, развіта недастаткова, кошт жыцця – высокі, а якасць (на іх, паўтаруся, думку) – нізкая, фінансавая сістэма (у ёй, дарэчы, радавы тайванец сапраўдны дока) перанасычана рэгламентацыяй, дзейнасць жа адміністрацыйных устаноў – малаэфектыўная... Нішто сабе падыходы – ці не так?! «Але, – тут жа дадаюць мае субяседнікі, – мы ведаем: на вырашэнне гэтых праблем сёння скіравана дзейнасць кіраўніцтва, і мы будзем усяляк спрыяць іх вырашэнню...»

На маё пытанне: «Як? Якім чынам?» – яны ў адзін голас – прычым без штучнай «натхнёнасці» ці «энтузіязму» – адказвалі: «Працай!»

І больш пытанняў пасля гэтага проста быць не магло.

У адносінах з мацерыковым Кітаем на Тайвані зараз прытрымліваюцца простага і зразумелага ўсім і кожнаму прынцыпу: «Кітайцы дапамагаюць кітайцам!». Праявіць добрую волю, шчырасць у зносінах з Пекінам у Тайбэі гатовы ў любы момант. Тайвань і мацерыковы Кітай патрэбны адзін аднаму, – у гэтым на востраве, як я пераканаўся, не сумняваецца ніхто.

Жыццё чалавека тут – на першым плане. «Наш урад, – з гонарам заяўлялі тайбэйцы, – імкнецца стымуляваць стварэнне такіх умоў, у якіх кожны чалавек павінен мець дом, дзе можна жыць, дарогі, па якіх можна ездзіць, ваду, якую можна піць, паветра, якім можна дыхаць, школы, у якіх можна вучыцца, бальніцы, у якіх можна атрымаць медыцынскую дапамогу, месцы, дзе можна адпачываць і займацца спортам, навакольнае асяроддзе, у якім можна існаваць, магчымасці для раскрыцця сваіх здольнасцяў і справядлівасць, у якую можна верыць...» На двух апошніх умовах субяседнікі рабілі асаблівы акцэнт: для іх, радавых жыхароў вострава, яны, несумненна, надзвычай важныя: бо ўсё астатняе, як кажуць, у іх ёсць!

На першы погляд, простыя, такія зразумелыя жаданні! Аднак жа за кожным з іх – вялікі гістарычны адрэзак часу, мары, надзеі і спадзяванні не аднаго пакалення тайваньцаў – людзей, настолькі такіх, як і ўсе астатнія насельнікі Зямлі, настолькі ж і неардынарных, своеасаблівых, непаўторных, як і іншыя...

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**
**(Заканчэнне будзе).**

## Заказалі конную статую Лужкова?

Масква. 1 красавіка. Інтэрфакс — Масква. **Вядомы скульптар Зураб Цэрэтэлі атрымаў заказ на выраб коннай статуі мэра Масквы Юрыя Лужкова.**

Заказчыкам выступіў грамадскі фонд падтрымкі мэра і ўрада Масквы «Любімы горад» і шэраг камерцыйных структур.

На думку аўтараў, статуя павінна быць адліта з бронзы ў натуральную велічыню і пастаўлена на вялікі пастамент. Левай рукой Ю. Лужкоў будзе ўтрымліваць каня, які ўстаў на дыбкі і будзе сімвалізаваць «буянства манетарызму». Правую руку гораданачальнік узніме ўверх, заклікаючы масквічоў стаць пад сцягі гаспадарнікаў-стваральнікаў.

Па праекту адных, неабходна падкрэсліць патрыятызм мэра і ўстанавіць скульптуру на яго малой радзіме – у Замаскварэччы. Іншыя настойваюць на Крапоткінскай набярэжнай, непадалёк ад храма Хрыста Збавіцеля. Тут, насупраць 96-метровага Пятра І, на думку архітэктараў, мэр «і архітэктурна, і ідэалагічна будзе пераклікацца з манументам будаўніка новай Расіі».

У мэрыі Масквы Інтэрфаксу паведамілі, што Ю. Лужкову пакуль не паведамілі аб праекце, які рыхтуецца, і ад каментарыяў устрымаліся.

Мастакі ў майстэрні З. Цэрэтэлі сцвярджаюць, што наступнай работай майстра стане 100-метровая статуя Анатоля Чубайса, якую плануецца ўстанавіць на радзіме рэфарматара – у Санкт-Пецярбургу на беразе Фінскага заліва.

# АД МААІЗМУ ДА МАМАНІЗМУ

## Кітай: як доўга можна спалучаць вольны рынак з монапартыйным камунізмам?

71-гадовы Цзянь Цзэмінь, які выконвае тры важнейшыя функцыі ў Кітайскай Народнай Рэспубліцы – прэзідэнта, партыйнага кіраўніка і кіраўніка Ваеннага камітэта, галоўнага вайсковага органа, – і мае фактычна непадзельную ўладу, летась пасля вяртання Ганконга атрымаў яшчэ адзін падарунак лёсу. Інфляцыя, якая тры гады перавышала 20 працэнтаў, у 1997 годзе ўпадзе да 2 працэнтаў – насуперак многім замежным прагнозам. Пяць гадоў запар не змяншаюцца тэмпы замежных інвестыцый у эканоміку Кітая, якія складаюць паўмільярда долараў у дзень.

У гэтай краіне-кантыненце, якая змяшчае ў сабе 55 народаў і 1,3 мільярда жыхароў, развіццё адбываецца зусім не гарманічна. Расце дыспрапорцыя паміж квітнеючым узбярэжжам і паўднёвай часткай краіны, з аднаго боку, і адстаючай поўначчу – з другога. Дзяржаўная прамысловасць перажывае цяжкі крызіс. У вёсках жыве тры чвэрці кітайцаў, што складае неабмежаваны рэзервуар таннай рабочай сілы і беднасці: трэць кітайцаў жыве ніжэй узроўню галечы. Але ўжо даволі многія адчуваюць, што жывецца ім лепей, што яны карыстаюцца плёнам рыначных рэформаў. Гэтыя людзі праходзяць паспешлівы курс «ад мааізму да маманізму» – культу грошай, поўнай міскі і матэрыяльных даброт. Многія таксама адчуваюць, што жывецца ім ужо і свабадней, без ранейшага ўсёабдымнага страху перад кожным прадстаўніком улады і паліцыі, перад мясцовым партыйным камітэтам і суседзямі. Зразумела, што да свядомай грамадзянскай супольнасці яшчэ вельмі доўгая дарога, нашмат цяжэйшая, чым да грамадства сотавых тэлефонаў.

Дэн Сяопін дзеля патрэбы вяртання Ганконга выкарыстаў формулу «адна краіна – два лады». Гэтая формула праз два гады будзе пашырана і на Макао, які цяпер знаходзіцца пад партугальскай адміністрацыяй, але пойдзе па слядах Ганконга. А ў будучым, магчыма, – і Тайвань, калі вопыт абыходжання з гэтымі дзвюма былымі калоніямі будзе прыцягальны для апошняга. Хутчэй за ўсё, аб Кітаі цяпер трэба гаварыць як аб адной краіне з многімі сістэмамі. КНР паставіла на «астраўное» эканамічнае развіццё крок за крокам там, дзе спачатку робіцца лакальны эксперымент, які потым пераносіцца на іншыя тэрыторыі. Таму гэтая краіна так моцна ўнутрана разарваная: ад навейшых ультратэхналогій да крайняй беднасці, ад адноснай свабоды да ГУЛАГаў. І ўсё адразу, усё побач. Але ў гэтым ёсць і практычны сэнс улады, які вынікае з разумення маштабаў краіны і яе праблем.

Сінолагі шукаюць адказу на пытанне: дзе ляжыць мяжа развіцця, як доўга можна спалучаць свабодны рынак з монапартыйным камунізмам? Відаць, пакуль яшчэ можна. Тым больш, што партыя ўдзельнічае ў вялікім па маштабах працэсе прыватызацыі. Яна, як і армія, з'яўляецца найбольшай палітычнай сілай і гарантам стабільнасці. І партыя і войска змяняюцца і ўдзельнічаюць у гэтым гіганцкім падзеле...

Цзянь Цзэмінь нядаўна падчас сустрэчы ў Гарвардскім універсітэце заявіў, што восем гадоў таму на плошчы Цяньаньмэнь, дзе разганялі дэманстрантаў, была зроблена памылка. Яго візіт падзяліў Амерыку на прагматыкаў і праваабаронцаў. Першыя лічаць, што нічога так не памякчае рэжым і не цывілізуе яго, як абмены і супрацоўніцтва. Іншыя мяркуюць, што без абавязковага выканання правоў чалавека ў Кітаі не можа быць і размовы аб дыялогу з ім. Парадаксальна, але рацыю маюць абодва бакі, і Кітай, нягледзячы на сваю дыпламатычную гібкасць, бачыць, што і ў далейшым яму не ўдасца адысці ад размовы на тэмы дэмакратычных свабод. Вызваленне першых дысідэнтаў – гэта, відавочна, адзінкавы жэст, які не мяняе лёсу астатніх, але, тым не менш, ён адбыўся.

Міжнародная амністыя сцвярджае, што ў Кітаі яшчэ ёсць больш як 2 тысячы палітычных вязняў, пакараных за «контррэвалюцыйную дзейнасць», а дзесяткі тысяч людзей знаходзяцца ў спецыяльных перавыхаваўчых лагерах, раскіданых па ўсёй краіне. Умовы ў турмах жахлівыя. Аднак кітайскі ўрад не хоча ні ад кога чуць заўваг на тэму правоў чалавека, сцвярджаючы, што гэтае пытанне звязана з «традыцыямі, гістарычным вопытам і рэальнай сітуацыяй», і тым самым не прызнаючы універсальны характар гэтых каштоўнасцяў.

Падчас візіту ў Кітай польскага прэзідэнта Аляксандра Квасьнеўскага быў падпісаны мемарандум, у якім знайшлося месца для запісу, што датычыць правоў чалавека. Аднак шмат эмоцый і контрверсій выклікаў іншы фрагмент гэтага дакумента, які датычыць Тайваня. Акрамя агульнапрынятай у свеце падтрымкі формулы неаддзельнасці Тайваня ад Кітая, польскі бок прызнаў, што адзіны Кітай – гэта менавіта КНР. У Пекіне можна было пачуць, што гэта кампенсацыя за фармулёўку аб тым, што КНР «цалкам разумее» польскае імкненне ў НАТО. Кітай жа яшчэ нядаўна заяўляў, што ён «разумее занепакоенасць Расіі», звязаную з пашырэннем НАТО.

З 1949 года Кітай трактуе Тайвань як бунтуючую правінцыю, якую трэба забраць, нават сілай. І Тайбэй паволі траціць палітычных саюзнікаў у сувязі з ростам камуністычнага Кітая і магчымасцяў для актывізацыі эканамічнага супрацоўніцтва з КНР. Невялікі дэмакратычны Тайвань, які за паўстагоддзя ператварыўся ў трынаццатую па магутнасці эканамічную дзяржаву свету, стаў прадметам бяссільнай злосці і зайздрасці пекінскіх кіраўнікоў. Урэшце тайваньцы становяцца ахвярамі глабальнай ігры сіл. І ўсё ж калі паўтара года таму бяспека Тайваня прама была пастаўлена пад пагрозу ў выніку блізкіх ваенна-марскіх вучэнняў КНР, прэзідэнт ЗША Біл Клінтан без ваганняў выслаў у той рэгіён армады амерыканскіх самалётаў, што даволі моцна напалохала кітайскіх вайскоўцаў.

**Паводле варшаўскіх часопісаў «Polityka» і «Wprost».**

# ЗА ПАЛІТЫКАЎ У ХУТКІМ ЧАСЕ ДАЗВОЛЯЦЬ ГАЛАСАВАЦЬ СВОЙСКІМ ЖЫВЁЛАМ?

**Дзевяць гадоў таму жонка прэм'ер-міністра Джона Мейджара Норма знайшла на вуліцы кацяня. Яна прынесла яго ва ўрадавую рэзідэнцыю, накарміла і вырашыла пакінуць сабе. Сімпатычнага коціка назвалі Хэмфры – у гонар камедыйнага тэлегероя сэра Хэмфры Эпіблі.**

Зразумела, кот стаў усеагульным любімцам, нягледзячы на часам праяўляемыя ім басяцкія замашкі – аднойчы ён зжор чатырох птушанят малінаўкі. Калі ў 1995 годзе Хэмфры раптам прапаў на цэлыя тры месяцы, хваляваліся не толькі жыхары Даўнінг-стрыт. Вядучыя англійскія газеты вынеслі «сенсацыйную» падзею на першыя палосы. На шчасце, дарагая прапажа знайшлася – аказваецца, кот проста заснуў у мікрааўтобусе, які перавозіў урадавую пошту, і аказаўся ў адным з каледжаў, адкуль пешшу дабіраўся да роднага дома.

Але вось сям'я Мейджараў пакінула ўрадавую рэзідэнцыю. У Хэмфры паявіліся новыя гаспадары – Энтані і Чэры Блэр. Не сакрэт, што рэпутацыя заходніх палітыкаў напрамую залежыць ад іх адносінаў да братоў нашых меншых. Так што нядзіўна, што рашэнне пакінуць ката ў сябе было адным з першых і самых важных яго крокаў на пасадзе кіраўніка дзяржавы. Аднак Чэры Блэр відавочна не падзяляла пункт гледжання мужа. З самых першых дзён яна ўсяляк спрабавала пазбавіцца ад беднага старога ката, тлумачачы мужу, што ў яе алергія на каціную поўсць, а па-другое, Хэмфры пакутуе ад хваробы нырак і таму часта пісаецца і, нарэшце, яна з дзяцінства ненавідзіць кошак. Справа дайшла да таго, што Хэмфры сапраўды ледзь не «згубіўся» назаўсёды – яго падабрала ў парку нямецкая турыстка. Так Хэмфры, да шчырай радасці лонданцаў, але да вялікага нездавальнення Чэры Блэр, быў зноў вернуты ў свае апартаменты. Каб замяць катастрафічны для яго кар'еры інцыдэнт, прэм'ер-міністр угаварыў жонку сфатаграфавацца з Хэмфры на парозе рэзідэнцыі на Даўнінг-стрыт.

Але вось увосень Англію ўзрушыла жахлівая навіна. Хэмфры пайшоў з рэзідэнцыі ў халодную золкую восень і не вярнуўся.

На пошукі «першага ката» Вялікабрытаніі кінуўся ўвесь Лондан. І ні ў кога з англічан не ўзнікае сумненняў, што менавіта каварная Чэры расправілася з бедным Хэмфры. Падзея стала далёка не жартоўнай справай, якая паўплывала на рэпутацыю прэм'ер-міністра. Брытанцы пачалі сумнявацца ў чалавечых якасцях Энтані Блэра і яго жонкі.

Каб хоць неяк супакоіць грамадскасць, нядаўна ўсе англійскія тэлеканалы прадэманстравалі відэазапіс з жывым і цэлым Хэмфры. Ён нібыта трапіў у добрыя рукі і жыве ў адным з прыгарадаў Лондана. Але англічане мала вераць у прапанаваную ім казку. Па-першае, лічаць яны, ім падсунулі зусім не Хэмфры, а проста падобнага на яго ката. А па-другое, добры чалавек з дому ката не выганіць. Значыць, зноў штосьці нядобра ў нашым каралеўстве...

**Святлана ДАЛГАПОЛАВА, «М-Э».**

Валерый ДРАКО:

# «У 1999 годзе можна правесці выбары ў адзіны заканадаўчы орган Саюза Расіі і Беларусі»

З ДЭПУТАТАМ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ БЕЛАРУСІ ВАЛЕРЫЕМ ДРАКО ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ ІНТЭРФАКСА

***— Валерый Уладзіміравіч! Вы адзін з распрацоўшчыкаў канцэпцыі пераўтварэння Парламенцкага Сходу Саюза Расіі і Беларусі ў адзіны прадстаўнічы і заканадаўчы орган. Калі ласка, раскажыце, чаму ўзнікла неабходнасць фарміравання гэтага органа?***

— Мы зыходзілі з артыкула Статута Саюза Беларусі і Расіі, у якім абумоўлена неабходнасць у кароткія тэрміны пераўтварыць Парламенцкі Сход дзвюх дзяржаў у адзіны прадстаўнічы заканадаўчы орган.

Саветам Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі была сфарміравана рабочая група, якую ўзначаліла расійскі дэпутат Алена Мізуліна. Цяпер у Маскве ідзе работа над прапановамі парламентарыяў абедзвюх дзяржаў, якія паступілі па гэтаму пытанню. Першапачаткова меркавалася, што канцэпцыя рэарганізацыі Парламенцкага Сходу будзе прадстаўлена прэзідэнтамі Расіі і Беларусі, каб яны абмеркавалі яе ў ходзе саміта, які планавалася правесці ў Мінску 2 красавіка. Аднак у сувязі з пэўнымі прычынамі сустрэча на вышэйшым узроўні не адбылася, таму дакумент будзе абмяркоўвацца на чарговай сесіі Парламенцкага Сходу, якая пройдзе ў маі ў Гомелі.

Працуючы над канцэпцыяй, мы ў першую чаргу адказвалі на пытанні, якім павінен быць заканадаўчы орган Саюза Расіі і Беларусі — аднапалатным ці двухпалатным. Ці павінны прымаемыя ім законы мець сілу прамога дзеяння, ці яны будуць насіць рэкамендацыйны характар? Ці павінны парламентарыі выбірацца, ці яны будуць дэлегаваныя нацыянальнымі заканадаўчымі сходамі? У выніку падрыхтаваны два варыянты канцэпцыі пераўтварэння Парламенцкага Сходу, якія і будуць прадстаўлены на разгляд дэпутатам.

***— Што сабой уяўляюць гэтыя варыянты?***

— Мы прапрацавалі варыянты фарміравання як аднапалатнага, так і двухпалатнага заканадаўчага органа. На мой погляд, аднапалатны парламент ужо ёсць. Гэта Парламенцкі Сход Саюза, дзе ў роўнай прапорцыі прадстаўлены дэпутаты Расіі і Беларусі. Аднак так і застаўся непрапрацаваным механізм увасаблення ў жыццё рашэнняў гэтага сходу. Цяпер ім прыняты тры мадэльныя законы, якія згубіліся ў нетрах прэзідэнцкіх адміністрацый. А гэта важныя законапраекты: «Аб абавязковым страхаванні ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці і прафесійных захворванняў», «Аб фінансава-прамысловых групах», «Аб статусе дэпутата Парламенцкага Сходу». Менавіта таму я актыўна выступаю за стварэнне двухпалатнага органа па прынцыпу фарміравання Вярхоўнага Савета СССР. У гэтым выпадку дэпутаты выбіраліся б у Савет Саюза і Савет Нацыянальнасцяў. Але канчатковае рашэнне аб тым, якім быць саюзнаму парламенту, павінны будуць прыняць кіраўнікі дзяржаў.

***— У выпадку стварэння двухпалатнага парламента непазбежна ўзнікне пытанне аб выбарах. На ваш погляд, якімі яны павінны быць?***

— Да адказу на гэтае пытанне расійскія парламентарыі падыходзяць вельмі тактоўна, і на пасяджэннях Парламенцкага Сходу ніхто яшчэ не казыраў колькасцю выбаршчыкаў, якія стаяць у яго за спінай.

Магчыма, хтосьці са мной не пагодзіцца, але мне здаецца, што будзе больш мэтазгодна, калі дэпутатаў у саюзны парламент будзе выбіраць народ. У гэтым выпадку чалавека не будзе гнясці думка залы, якая дэлегавала яго ў той ці іншы прадстаўнічы орган. Адна справа, калі чалавек прыходзіць працаваць на пэўны тэрмін — 4-5 гадоў, і зусім іншае — калі кожны год будзе адбывацца ратацыя.

Перакананы, што ў саюзны парламент павінны быць прамыя выбары. Хтосьці скажа аб непараўнальнасці тэрыторый Расіі і Беларусі. Аднак нагадаю, што ў ходзе выбараў у Вярхоўны Савет СССР у Расійскай Федэрацыі таксама былі акругі з мільённым насельніцтвам, аднак дэпутаты ў ВС працавалі на аднолькавых правах.

Існуе думка, што ў Савет Нацыянальнасцяў дэпутаты павінны выбірацца насельніцтвам, а Савет Саюза фарміравацца з парламентарыяў нацыянальных заканадаўчых сходаў. Мне такі падыход уяўляецца няправільным.

***— Ці будуць рашэнні гэтага заканадаўчага органа лічыцца законамі прамога дзеяння ці мадэльнымі праектамі, якія ў будучым будуць прымацца нацыянальнымі парламентамі?***

— Канцэпцыя мяркуе, што на тэрыторыі Саюза будуць дзейнічаць тры віды законаў, якія будуць прымацца адзіным заканадаўчым органам. Абавязковыя для ўсіх законы прамога дзеяння стануць прымацца ў фінансавай і прамысловай сферах. Разам з тым будуць прымацца мадэльныя законы, якія парламенты Расіі і Беларусі будуць выкарыстоўваць у сваёй рабоце, улічваючы нацыянальную спецыфіку. І, безумоўна, будуць існаваць законы, дзеянне якіх магчыма толькі на тэрыторыі адной дзяржавы, напрыклад, Закон аб мовах.

***— Як вы мяркуеце, якія паўнамоцтвы неабходна нацыянальным парламентам Расіі і Беларусі дэлегаваць адзінаму заканадаўчаму органу?***

— Нашым краінам, на мой погляд, неабходна каардынаваць заканадаўчы працэс у эканамічнай сферы. Жыццё падказвае, што разам трэба вырашаць фінансавыя пытанні. Адзіным павінна быць заканадаўства, якое датычыцца чарнобыльскай праблемы. Таксама неабходна каардынаваць свае дзеянні ў галіне абароны і ў рабоце праваахоўных органаў.

***— Якім чынам канцэпцыя пераўтварэнняў Парламенцкага Сходу будзе ажыццяўляцца?***

— Калі разабраць гэты працэс крок за крокам, то мне ўяўляецца наступная камбінацыя. У пачатку прэзідэнты дзвюх краін выкажуць сваю волю аб неабходнасці гэтага пераўтварэння. Парламентарыі выпрацуюць праект канкрэтнага закона, у якім будуць у дэталях сфармуляваны адказы на ўсе пытанні, якія датычацца выбараў і механізмаў ажыццяўлення рашэнняў. Пасля неабходна гэта пытанне вынесці на ўсенародны рэферэндум. Без гэтага кроку проста не абысціся. Калі беларускі народ ужо дакладна выказаўся па дадзенаму пытанню на мінулым рэферэндуме, то Расійскай Федэрацыі яшчэ трэба будзе вызначыцца. Далей трэба ўнесці адпаведныя змяненні ў канстытуцыі дзвюх краін, бо трэба будзе дэлегаваць фарміруемаму заканадаўчаму органу некаторыя функцыі і паўнамоцтвы нацыянальных парламентаў. Пасля, ухвалены двума народамі, закон павінен быць ратыфікаваны парламентамі і зацверджаны кіраўнікамі дзяржаў. І ўжо ў 1999 годзе можна рэальна праводзіць выбары ў адзіны заканадаўчы орган Саюза.

***— Ці ёсць у гэтай ідэі праціўнікі?***

— З упэўненасцю магу сказаць, што ўсе члены Парламенцкага Сходу Саюза Расіі і Беларусі разумеюць неабходнасць гэтага кроку. Яўных праціўнікаў няма.

Да таго ж, калі пройдуць прамыя выбары ў адзіны заканадаўчы орган, будзе сфарміраваны легітымны і прызнаны іншымі дзяржавамі парламент. Расія сёння знаходзіцца на парозе перадвыбарных кампаній. Дзеючыя цяпер дэпутаты гэта разумеюць і робяць адпаведныя прагнозы.

У той жа час ёсць людзі, якія разумеюць, што выбарамі ў адзіны парламент справа можа не скончыцца. Таму нам трэба яшчэ нямала працаваць над канцэпцыяй і канкрэтным законапраектам.

***— Ці можа ў будучым пераўтвораны Парламенцкі Сход стаць адзіным парламентам адзінай краіны?***

— Наша канцэпцыя дапускае, што нараўне з Парламенцкім Сходам актыўна будуць функцыянаваць нацыянальныя парламенты.

Што ж датычыцца прамога адказу на ваша пытанне — пры ўсім аптымізме я не рызыкнуў бы адназначна сцвярджаць, што Парламенцкі Сход можа калі-небудзь стаць адзіным нацыянальным парламентам аб'яднанай краіны.

---

# Хутарская ідылія пахне гноем і потам...

**Восенню 77-га ваш пакорны слуга трапіў на сваю першую студэнцкую «бульбу». Нас прывезлі ў Глыбоцкі раён, як цяпер памятаю, у вёску Перадолы. Усіх рассялілі па хатах, а нас з сябрам — на хутар. Хутар — адзінокая хата на ўскрайку лесу, за 2 кіламетры ад вёскі.**

**Там жыла сям'я: муж, жонка, двое дзяцей, бацька мужа. У іх была моцная гаспадарка, нават каня мелі, не кажучы пра кабанчыкаў, курэй, карову, індыкоў. Нас частавалі там далікатэсам: смажаным індыком у смятане. Сама сядзіба стаяла на ўзгорку, двор быў акружаны старымі таўшчэзнымі ліпамі. Быў верасень, і ліпы стаялі залатыя. Помню, я адразу ўлюбіўся ў гэты хутар. Нават сур'ёзна марыў застацца тут, калі марыць можна сур'ёзна.**

**Памятаеш толькі добрае, але цяпер я нагадваю, што гаспадар і яго сям'я ўвесь час былі занятыя. І мы ім па выхадных дапамагалі. Ды так, што я потым неяк раздумаў тут заставацца. Магчыма, зразумеў, што індыкі ў смятане не растуць на дрэвах. Іх трэба спачатку выгадаваць...**

## ШТО ЁСЦЬ ХУТАР

Аднойчы гаспадар папрасіў дапамагчы вывезці сена з балаціны. Паехалі. Папрацавалі, стары павёз першы воз, а мы закурылі і разгаварыліся. У асноўным пра цяжкае хутарское жыццё. Гаспадар скардзіўся, мы слухалі. А потым сябар спытаў: «Ну дык пераязджайце ў вёску, чаго тут сядзець?» Ах, як падскочыў гаспадар! «Ды ты што! Ніколі! Я тут сам сабе! Вольны чалавек!»

Ніякім вольным ён, канешне, не быў, а быў звычайным калгаснікам, як і жыхары вёскі. Цяпер мне зразумела, што ў яго была толькі ілюзія вольнасці. Але гэтага хапала. Чалавек увогуле згодны жыць ілюзіямі, калі адсутнічае рэальнае ўвасабленне яго мары. Тут быў той жа выпадак. Наш гаспадар хадзіў у калгас. Як мы зразумелі, не вельмі там стараўся. Асноўны яго інтарэс, сапраўды жывы і гарачы, быў сканцэнтраваны на сваім хутары. На сваім маленькім астраўку незалежнасці.

Таму мне здаецца, што хутар — гэта не проста асобна размешчаныя гаспадаркі. Гэта лад жыцця. Гэта філасофія. Я сказаў бы так: ёсць проста вясковыя жыхары — і ёсць хутаране. І гэта розныя сацыяльныя групы, хаця мэты ў іх аднолькавыя.

Цікавая рэч: ранейшае жыццё на хутары салодкім не было ніколі, але факт — на хутарах галадалі радзей, чым у калгасах. Маці расказвае, што яшчэ перад самай вайной «супчык з крапівы» быў у іх справай звычайнай, а бліны — рэдкім святам. Жылі яны ў калгасе...

## ВЫНІШЧЭННЕ

Да 1918 года на Беларусі налічвалася 55 тысяч хутароў. У 1924-м — ужо амаль 80 тысяч. Найбольшая іх колькасць зафіксавана ў 1936 годзе: 167 тысяч 100. А 1939-ты — 137 тысяч 340. Пытанне аб знішчэнні хутароў было пастаўлена ў 1935 годзе. Прынялі рашэнне аб сцягванні хутароў — перавозе хутарскіх пабудоў на цэнтральныя сядзібы калгасаў. Калектывізацыя патрабавала ліквідацыі заможнага гаспадара. Новаму рэжыму ён быў непатрэбны..

У 1937 годзе агульная колькасць хутарскіх гаспадарак складала 16—18 працэнтаў ад усёй колькасці гаспадарак. А напрыклад, Лёзненскі раён быў поўнасцю хутарскім. Вядома, працэс «хутарызацыі» пачаўся ў часы сталыпінскай аграрнай рэформы. Першая сусветная вайна, рэвалюцыя і грамадзянская вайна гэты працэс прыпынілі. Ён адрадзіўся з новай сілай у 20-я гады. Можна нават лічыць, што бальшавікі нічога кардынальна новага не прапанавалі і проста працягвалі развіваць ідэі Пятра Сталыпіна. «Беларусь у развіцці сельскай гаспадаркі павінна ісці па шляху Даніі, павінна стаць Даніяй на Усходзе Еўропы», — гэтыя словы наркома земляробства Дз. Прышчэпава былі тады папулярныя. Ён, напрыклад, лічыў, што хутар — гэта правобраз будучай моцнай фермерскай гаспадаркі. Так што пад Месяцам нічога новага...

Якім ні быў прагрэсіўным Прышчэпаў, аднак у 30-я гады перамог пункт погляду тав. Бермана, слаўнага чэкіста: «Хутарскія гаспадаркі на сённяшні дзень з'яўляюцца вельмі сур'ёзнай і не толькі палітычнай, але і эканамічнай перашкодай у справе гаспадарчага ўмацавання ўжо існуючых калгасаў і ўтварэння новых калгасаў». Кропка. Лёс хутароў быў вырашаны.

Але «вольніца» супраціўлялася як магла. Для пераезду ў цэнтр патрабавалася заява гаспадара. Але, напрыклад, ва Ушацкім раёне з 760 аднаасобнікаў заявы падалі 18, у Старобінскім і Мінскім — ніводнай. У іх, праўда, ніхто і не прасіў гэтых заяў — усё рабілася прымусова, часта нават без усякага забеспячэння. Гісторыя захавала адметныя факты маўклівай упартай барацьбы.

У Магілёўскім раёне аднаасобніку Рыгору Шведаву знялі дах, але ён нікуды не паехаў, дах адрамантаваў і вясной засеяў поле. У Міхаіла Цыгарова з тых жа мясцін увогуле разабралі дом. Да жыцця ён прыстасаваў свіран. У тым жа раёне дзесяці аднаасобнікам знялі дахі, двум разабралі дамы і перавезлі, але ўсе засталіся на месцы.

А вось зусім цудоўны выпадак: «Единоличник Просняк Киселевского с/с после того, как колхоз перевез его постройку в центр колхоза, отказался от строительства дома, остался жить в хлеву, и, когда колхоз предоставил летом сарай, куда были перевезены вещи, он нанял единоличника, перевез вещи обратно на старую усадьбу, «перекрестился» и сказал: «Да здравствует родина моя», — паведамлялі з Асвеі ў Мінск.

Нарэшце, заключная статыстыка: у 1939 годзе было ліквідавана 109 тысяч 457 хутароў, у 1940-м — 51 тысяча 616. Усе прыведзеныя лічбы і факты не сакрэтныя, яны ўзятыя з кнігі Таццяны Працькі, прысвечанай знішчэнню беларускага сялянства.

Вось там, у 30-х гадах, трэба шукаць прычыны сённяшняга, мякка кажучы, не бліскучага становішча сельскай гаспадаркі некалі сельскай краіны. Колькі засталося хутароў сёння, сказаць цяжка. Мне вядома, напрыклад, што ў Іўеўскім раёне іх налічваецца каля 1000, шмат хутароў у Лідскім раёне, некаторых іншых заходніх раёнах.

Можна да сказанага дадаць толькі адно: мела месца не проста фізічная ліквідацыя хутароў — знішчалася сама ідэя вольнага гаспадарання.

## КІМ БЫЎ БЫ СЁННЯ НАРКОМ ПРЫШЧЭПАЎ ?

Прышчэпаў, канешне, тройчы меў рацыю, калі гаварыў, што хутар ёсць правобраз заможнай фермерскай гаспадаркі. Гаварыць так ён меў усе падставы: хутар стаіць асобна, не трэба спецыяльна шукаць свабодныя землі; там склалася сістэма гаспадарання, севазвароты; там існуе вытворчы калектыў, які асуджаны працаваць заўсёды адказна і вынікова, інакш проста не выжыве. Заставалася толькі аддаць (ці прадаць) яму зямлю ва ўласнасць. Што па тым часе было, вядома, небяспечнай марай. (Прышчэпаў, як вядома, у якасці «ўзнагароды» атрымаў кулю ў патыліцу.)

Мне карціць прывесці адну цытату, не вызначаючы крыніцу: «Відаць, ужо ніхто не сумняваецца, што прыватнагаспадарчая вытворчасць, якую мы па старому называем асабістай, падсобнай, трывала ўвайшла ў наша жыццё. Забеспячэнне яе кармамі, маладняком, інвентаром, ветэрынарным абслугоўваннем, закупка прадукцыі — такі ж дзяржаўны клопат, як і клопат аб грамадскай вытворчасці». Заўважце, «як і аб грамадскай». Ускосна прызнаецца, што «прыватнагаспадарчая вытворчасць» значыць для жыцця краіны не менш, чым грамадская. Адно ўдакладненне: яна з нашага жыцця нікуды і не знікала, а значыць не магла «трывала ўвайсці» — яна там і была.

Адметная рэч: з месячных і гадавых справаздач Міністэрства статыстыкі зніклі даныя па прысядзібных участках грамадзян. Па калгасах і саўгасах ёсць, а па прысядзібных ды фермерах — няма. Нездарма, канешне, бо прыватнік рэгулярна, штогод даказвае вышэйшую эфектыўнасць сваёй работы. Што ёсць, тое ёсць. Грамадства мае патрэбу вось у такой колькасці прадуктаў харчавання. Калі яе не могуць забяспечыць калгасы, гэта робіць прыватнік — такім чынам, агульная колькасць прадуктаў захоўваецца прыкладна на адным узроўні. Вы можаце ў гэта не верыць, але нагадайце, калі апошні раз былі ў дзяржаўным агародніным магазіне. Можаце завітаць на Камароўку, прыблізна прыкінуць, колькі там бывае штодзень людзей. А ўсё, што там прадаецца, — вынік прыватнай ініцыятывы грамадзян, якія жадаюць жыць прыстойна. Не больш таго.

Сёння хутары не знішчаюць. Здаецца, нават думкі такой нікому ў галаву не прыходзіць. Наадварот, дзе-нідзе пачалося ціхае «варушэнне»: маўляў, хутары трэба б аднаўляць, адраджаць, уліваць маладое віно ў старыя мяхі...

Але... Па-першае, насельніцтва хутароў пераважна пажылога ўзросту. Дзеці выраслі і з'ехалі ў гарады, бо ім унушылі думку аб бесперспектыўнасці хутарскога жыцця, яго другасортнасці. Дзеці прыязджаюць саджаць бульбу і калоць кабанчыка, чым іх працоўны ўдзел і абмяжоўваецца. Па-другое, зямля вакол хутара — калгасная, хутаранін мае той жа надзел, што і жыхары вёскі. Чуткі аб тым, што землі прырэжуць столькі, каб стварылася таварная вытворчасць — няма. Па-трэцяе, каб такую вытворчасць арганізаваць, патрэбны салідныя ўкладанні — яны ідуць толькі на чарговыя крэдыты калгасам. Па-чацвёртае, у нас няма прыватнай уласнасці на зямлю. Можа б гарадскія дзеці кінулі свае кватэры і вярнуліся б на бацькоўскі хутар. Але яны гэтага не зробяць ніколі, бо ніхто ім не дасць гарантый — атрымання зямлі ва ўласнасць з правам яе продажу, крэдыту для куплі тэхнікі, угнаенняў, той жа зямлі і г. д.

## ВЫРАШАЦЬ ПРЫДЗЕЦЦА ЎСЁ РОЎНА...

Паводле некаторых даных, 73 працэнты калгасаў і дзяржгасаў не змогуць правесці пасяўную без чарговых крэдытаў, на вяртанне якіх зноў не будзе сродкаў. У нас афіцыйна ёсць 226 стратных гаспадарак. Калі дадаць да іх тыя, дзе рэнтабельнасць была да 15 працэнтаў, то атрымліваецца гэта лічба — 73 працэнты. Уявіце, большая частка калгасаў не можа нармальна працаваць.

Адсюль пошукі выйсця, вяртанне да старых правераных метадаў. Але ці маюць яны перспектыву? Нават прыватная сялянская гаспадарка мае свой рэсурс. Ніхто не стане трымаць па дзесятку свіней ці па пяць кароў, селянін звычайна вырабляе столькі, каб хапіла на сям'ю, а звыш гэтага — на продаж. А «звыш» — шмат не бывае. Сённяшняя сялянская гаспадарка застаецца і будзе надалей пераважна натуральнай. Вось тут яе тупіковасць. Хаця, канешне, гэта рэзерв. Праўда, не бяздонны.

Прыходзім да таго, ад чаго адмовіліся — неабходнасці рэфарміравання сельскай гаспадаркі. Паводле даных сацыялагічнага апытання НІСЭПД, праведзенага ў снежні 1997 года, пятая частка электарату (20 працэнтаў) ужо гатова да сапраўдных рэформаў і чакае іх 25—30 працэнтаў — супраць. Астатнія пакуль у роздумах і ваганнях, іх пазіцыя залежыць ад чарговых палітычных падзей. Хаця часта яны таксама падзяляюць жаданне той самай пятай часткі...

Так што вырашаць прыйдзецца ўсё роўна. І добра, каб не было позна.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

***Мінула не так і шмат часу, як Мінскі электрарамонтны завод быў пераўтвораны ў акцыянернае таварыства. У жніўні 1997 года адбыўся першы сход акцыянераў. І вось крыху больш як праз паўгода чарговы сход акцыянераў падвёў першыя вынікі работы па-новаму. У многім яны абнадзейлівыя. Бо людзі ў рэшце рэшт паверылі ў тое, што можна і трэба быць сапраўднымі, а не ўяўнымі гаспадарамі на прадпрыемстве, якое, да таго ж, становіцца іх уласнасцю.***

**ААТ «ЭЛЕКТРАРАМОНТНЫ ЗАВОД»**

**г. Мінск, вул. Прытыцкага, 2; тэл./факс 254-43-14, тэл. 254-40-43**

**Заснавана на базе Мінскага вопытнага электрарамонтнага завода**

**НАКІРУНКІ ДЗЕЙНАСЦІ**

**Капітальны рамонт:**
- аўтатрактарнага электраабсталявання (генератары, стартэры, рэле-рэгулятары, размеркавальнікі);
- электрарухавікоў (ад 0,09 кВт да 400 кВт);
- зварачнага электраабсталявання (трансфарматары, генератары, ператваральнікі, выпрамнікі)

**Распрацоўка і выраб:**
- бескантактных (вентыльных) электрарухавікоў;
- электрапрыводаў на аснове бескантактных электрарухавікоў

# АКЦЫЯНЕРЫ ПАДВОДЗЯЦЬ ВЫНІКІ

СЛУХАЮЧЫ ДАКЛАД ДЫРЭКТАРА адкрытага акцыянернага таварыства «Электрарамонтны завод» Аляксандра Кучынскага, прыходзіш да высновы, што зусім не марнымі былі ўсе тыя намаганні па рэфарміраванню ўласнасці. Вынікі работы за мінулы год даюць упэўненасць у тым, што калектыў на правільным шляху. Летась рост вытворчасці перавысіў паказчык папярэдняга года недзе на 9,9 працэнта. Прадпрыемства паспяхова справілася з важнейшымі планавымі паказчыкамі, спаўна і ў тэрмін разлічвалася за энерганосьбіты, выплачвала дзяржаве неабходныя падаткі. Адпаведна расла і заработная плата.

Апрача асноўнага свайго прызначэння — рамонту і аднаўлення электрарухавікоў, многае зроблена і ў справе серыйнай вытворчасці бескантактных (так званых вентыльных) электрарухавікоў, якія дазваляюць эканоміць да 20 працэнтаў электраэнергіі. Да таго ж наяўны камутатар забяспечвае рэгуліроўку абаротаў вала рухавіка практычна ад нуля да максімальнай велічыні, а таксама дазваляе мяняць напрамкі вярчэння. Для ўключэння і адключэння рухавіка не патрэбна кантактная камутацыйная апаратура, бо камутатар забяспечвае выключэнне і адключэнне рухавіка, а таксама засцерагае яго ад перагрузак. Адсутнасць жа ў рухавіку шчотачна-калектарнага вузла павышае яго надзейнасць, а адносна невялікі кошт, малыя габарыты, добрыя рэгуляв альныя ўласцівасці і высокая частата вярчэння таксама будуць даспадобы спажыўцам. Дарэчы, многія ўжо зразумелі і ацанілі гэта. З поспехам выкарыстоўваюцца новыя рухавікі на БелАЗе, некаторых іншых прадпрыемствах. Расце попыт на гэту прадукцыю і ў Расіі. Зацікавіліся навінкай і працаўнікі сельскай гаспадаркі. У прыватнасці, для трактара «К-700» і яго мадыфікацый выраблена некалькі дзесяткаў рухавікоў, прызначаных для прапампоўвання масленай сістэмы. А калі ўлічыць, што падобных рухавікоў не вырабляюць у Расіі, то атрымліваецца, што ААТ «Электрарамонтны завод» з'яўляецца па сутнасці адзіным іх вытворцам.



А нядаўна тут паспяхова праведзены заключны этап выпрабаванняў так званага плоскага электрарухавіка. У прыватнасці, сюды паступілі ўжо заказы на іх з МАЗа. Аказваецца, менавіта такія незвычайныя па форме электрарухавікі вельмі прыдатныя для прыводаў шклопад'ёмніка ў аўтамабілі. Цяпер на прадпрыемстве ўсур'ёз задумаліся над тым, каб запатэнтаваць новы рухавік, аналагаў якому няма.

— Толькі за апошнія паўгода, — тлумачыць канструктар вентыльных рухавікоў Сяргей Новікаў, — на прадпрыемстве выраблены і праходзяць выпрабаванні некалькі доследных узораў электрапрыводаў. У прыватнасці — для сістэмы дыстанцыйнага кіравання падачай паліва ў дызельныя матory. Заслугоўвае ўвагі рэгулюемы электрапрывод 2,2 кВт (1500 абаротаў у хвіліну), прызначаны для металаапрацоўчых станкоў і іншага прамысловага абсталявання. Шматабяцальным будзе і электрапрывод для шклопад'ёмнікаў. Яны прызначаныя для велікагрузных машын і колавых цягачоў. Дарэчы, распрацоўку некаторых вузлоў рухавікоў мы вялі сумесна са спецыялістамі Інстытута надзейнасці і даўгавечнасці машын Нацыянальнай акадэміі навук.

Няпроста прыйшлі да сённяшняга якасна новага становішча працаўнікі прадпрыемства. Амаль два гады спатрэбілася ім на тое, каб аформіць неабходную дакументацыю. Усё пераадолелі: кансерватызм і коснасць уладных структур, недавер да новага, прагрэсіўнага. Аднак цяжкасці толькі дабаўлялі сіл і ўпэўненасці. Статутны фонд таварыства перавышае 10 мільярдаў рублёў. Ён падзелены на 29.995 акцый коштам па 350 тысяч рублёў кожная. Усяго на першым этапе было рэалізавана для працаўнікоў прадпрыемстваў 5250 акцый, прычым за чэкі — 1657, астатнія 3593 — за наяўныя грошы па кошту на 20 працэнтаў ніжэй за намінал. І ўсё ж каля 24 тысяч акцый аказаліся наогул незапатрабаванымі, яны чакаюць сваёй чаргі. Аказваецца, набыццё іх было строга абмежаваным: працаўнік мае права набыць за ўласныя грошы акцый на суму не больш як 100 мінімальных зарплат. Вось у гэтым якраз і заключаецца асноўны парадокс нашай постсавецкай рэчаіснасці. Чаму не болей як на 100 «мінімалак»? Адзін можа марна патраціць куды большую суму, і гэта нікога не турбуе. А другі гатовы ўкласці ў справу апошні рубель. Дык навошта ж яму перашкаджаць? Ва ўсякім разе, больш як 24 тысячы акцый па 350 тысяч рублёў кожная сёння ляжаць мёртвым грузам, не працуюць. А калі б працаўнікі прадпрыемства змаглі іх выкупіць, то грошы гэтыя былі б інвесціраваны ў эканоміку.

Такое ці прыкладна такое ж становішча і на многіх іншых прадпрыемствах, якія параўнальна не так даўно сталі акцыянернымі таварыствамі. І там існуе такі ж бар'ер у выглядзе ста «мінімалак» для набыцця гэтых самых акцый. Калі дзяржава дала дазвол на прыватызацыю, то чаму існуюць такія недарэчныя абмежаванні? Баімся, што нехта скупіць нашы фабрыкі і заводы? Але, па-першае, калі скупяць, то пастараюцца так наладзіць справу, каб прадпрыемства давала прыбытак. А па-другое, паколькі існуе такая, няхай і смяхотная небяспека, то чаму б не дазволіць самім працаўнікам выкупіць свае прадпрыемствы? У нас жа ёсць прыклады, дзе ўладальнікамі акцый сталі самі працаўнікі. Узяць такія вядомыя ў рэспубліцы прадпрыемствы, як «Керамін», «Мілавіца», якія акцыяніраваліся ўжо некалькі гадоў таму. Гэтыя калектывы спраўляюцца з усімі заданнямі, паспяхова нарошчваюць вытворчыя магутнасці, разлічваюцца па падатках. І зарплата там высокая. Нядаўна давялося пабываць на сходзе акцыянераў ААТ «Керамін». Калі зайшла размова, што частку прыбытку, якая прызначана для выплаты дывідэндаў (а яны там даволі значныя), трэба накіраваць на развіццё вытворчасці, усе падтрымалі гэтую прапанову, бо працуюць на перспектыву свайго ўласнага прадпрыемства. Менавіта гэтая акалічнасць прыпомнілася на сходзе акцыянераў ААТ «Электрарамонтны завод». Дык вось, калі зайшла размова аб размеркаванні дывідэндаў, асаблівага энтузіязму гэта навіна не выклікала. Бо ў сярэднім на кожную акцыю прыпадае іх дзесьці каля 7 тысяч рублёў. Калі ж улічыць, што нават тыя, хто працуе на прадпрыемстве па 20 і больш гадоў, маюць усяго ад 60 да 70 тых акцый, то атрыманая сума не вартая таго, каб за яе дужа хвалявацца. Арыфметыка зразумелая: паколькі на руках у акцыянераў толькі каля 20 працэнтаў акцый, то яны маюць права атрымаць недзе пятую частку ад вызначанай сумы. У выніку людзі не зацікаўленыя ў атрыманні прыбытку і гэтых самых дывідэндаў. Вось калі б калектыву належала хоць бы палова акцый, то і адносіны былі б зусім іншыя. Дарэчы, гэта праблема датычыцца не толькі ААТ «Электрарамонтны завод». Прыкладна такое ж становішча і ў многіх іншых акцыянерных таварыствах. Словам, даўно наспела праблема зняць бар'еры на шляху свабоднай рэалізацыі акцый, хоць бы па месцы работы. А калі некага зацікавяць крыніцы сродкаў, то існуюць дэкларацыі аб даходах. Тое ж самае і адносна чэкаў «Маёмасць». Паколькі ў рэспубліцы адсутнічае нармальны рынак каштоўных папер, гэтыя самыя чэкі не што іншае, як самыя звычайныя паперкі. Нядаўна ў друку з'явіўся спіс 76 прадпрыемстваў, акцыі якіх можна набыць за прыватызацыйныя чэкі праз АК «Беларусбанк». Ад ААТ «Электрарамонтны завод» туды паступіла 9 тысяч 442 акцыі. Але пры цане 10 чэкаў за адну акцыю чалавек зможа набыць за ўласныя чэкі не больш як 7-8 акцый. Наўрад ці знойдуцца і тут ахвотнікі. Вось каб яшчэ дазволілі іх набываць за наяўныя рублі...

**Уладзімір ГОЙТАН.**







**На здымках: у версе** – *выступае дырэктар акцыянернага таварыства «Электрарамонтны завод» Аляксандр КУЧЫНСКІ; у зале — акцыянеры;* **у нізе** – *вось ён, новы электрарухавік, у руках інжынера Аляксандра КРУПІЦКАГА; слесары Аляксандр ШАСЦІТКА і Аляксандр АСАВАЛЮК за зборкай вентыльнага рухавіка; работніцы абмотачнага аддзялення электрарамонтнага ўчастка.*

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 13 (131)







Згубленае пасведчанне інваліда № 020697 серыі 09, выдадзенае на імя КАПЛУН В. Е., лічыць несапраўдным.

Сардэчна віншуем з днём нараджэння **Марыю Адольфаўну КАРВЕЦКУЮ**.
*Каб вам у жыцці ўсё ўдавалася,*
*Не сустракалася ні гора, ні бяды.*
*Каб заўсёды такой заставалася,*
*Якой мы ведаем*
*і любім многія гады.*
**Калегі па працы на Сольскім агароднінасушыльным заводзе.**

## ВІНШАВАННІ

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння* ***Сафію Аляксандраўну ПЕКАР*** *з в. Семкава Навагрудскага раёна і* ***Леаніда Аляксандравіча ПЕКАРА*** *з Карэліч. Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў.*

**Родныя.**

*Віншуем з днём нараджэння* ***Галіну Іванаўну ДАЙНЕКА*** *з в. Красны Дар. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы і ўсіх даброт.*

**Настаўнікі,** в. Красны Дар.

*Віншуем з днём нараджэння* ***Тамару Васільеўну ЗІМНІЦКУЮ*** *з г. Слоніма. Жадаем моцнага здароўя, згоды і кахання, шчасця і радасці на доўгія гады.*

**Родныя** з в. Сваятычы.

*Віншуем з днём нараджэння* ***Таццяну Уладзіміраўну МАЦКО****. Жадаем здароўя на доўгія гады, сямейнага дабрабыту.*

**Родныя**, г. Івацэвічы.

*Шчырыя пажаданні моцнага здароўя, дабрабыту, узаемапавагі і ладу ў сям'і, радасці і шчасця ў жыцці* ***Ганне Адамаўне ВІНЕЛЬ*** *з г. Мінска з нагоды дня нараджэння.*

**Родныя**, г. Стоўбцы.

***Сяргея Аляксеевіча КРЫЛОВА*** *з г. п. Свіслач віншуем з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, сямейнага шчасця!*

**Крылова М. І., сем'і Бердыгулавых і Жмуро**.

*Віншуем дарагую матулю* ***Браніславу Кірылаўну АКУЛІК*** *з днём нараджэння. Моцнага здароўя, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця жадаюць табе дочкі, нявестка, сын і ўнукі.*

В. Дыхнавічы Ваўкавыскага раёна.

*Сардэчна віншую лепшага сябра, добрага чалавека* ***Марыю Баляславаўну СКАРНЯКОВУ*** *з нагоды 55-годдзя.*

***Каб здароўе было моцным, а хвіліны суму рэдкія, каб ліха бокам мінавала і сама на сяброў не забывалася!***

**Уладзімір Іванавіч.**



## ПРАДАЕЦЦА

● Баян тульскі «Эцюд», танна.
*Тэл. у Астраўцы 2-07-91.*

● Дом, газавае ацяпленне, участак 30 сотак, добрыя зносіны, у Нясвіжскім раёне — 4500 у. а.
*Тэл. (8-270) 5-83-07.*

● Дом, участак 30 сотак, сад, возера, лес, рака, танна — у в. Азёркі Глыбоцкага раёна.
*Тэл. (8-254) 2-81-13.*

● «Форд-Сіера» 1985 г. в., «VW-Cemma» 1982 г. в., нерастаможаны.
*Тэл. (8-01647) 7-32-88.*

● Зруб 8х12 і зруб для лазні або дачы.
*Тэл. у г. Івянец 5-31-75.*

● Дом 2-павярховы, цагляны, гараж, сад, маецца каналізацыя, водазабеспячэнне — у г. Мядзелі на беразе возера Мястра.
*Тэл. 5-40-81.*

● Матацыкл «ІЖ-Юпітэр-5», прабег 6 тыс. км — у Драгічыне.
*Тэл. (8-244) 6-66-54.*

● А/прычэп; конь у г. п. Любча Навагрудскага раёна.
*Тэл. 7-17-53.*

● Дом з г/пабудовамі і ўчасткам 40 сотак у в. Смаленікі Ляхавіцкага раёна.
*Тэл. 5-13-13.*

● Фотаапарат «Зеніт», фотапавелічальнік «Таўрыя» (1,2 млн. руб.) — в. Лыкавічы Карэліцкага раёна, д. 23.

● Трактары «МТЗ», «Т-16» — новы і б/к.
*Тэл. (017) 251-06-48.*

● Дом з г/пабудовамі, участак 25 сотак, маецца тэлефон — у в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна.
*Тэл. 4-16-89*

● Дзіцячы ложак з матрацам (850 тыс. руб.) у добрым стане.
*Тэл. 243-21-33*

● «Форд-Эскорт» 1983 г. в. (800 у. а.) на з/ч у Валожынскім раёне.
*Тэл. 3-54-99.*

● Дом з г/пабудовамі ў Нясвіжскім раёне.
*Тэл. у Дзяржынску (8-216) 4-01-38 з 9 да 17, Зоя Уладзіміраўна.*

● Аўтамабіль «ЛуАЗ-969М» 1991 г. в., тэрмінова, г. Любань.
*Тэл. (8-294) 5-71-04.*

● Новыя поршні, кольцы, укладышы, спіцы да матацыкла «МТ-10»; да «К-750» КПП б/к.
*Тэл. у Міёрах 2-23-77 з 14.00*

● Прычэп трактарны 2ПТС-4, кацёл ацяпляльны КСТГ-20.
*Тэл. (8-01633) 2-17-80.*

● Чарцяжы магутнай малагабарытнай антэны «ДМВ» і ўзмацняльніка, зварачнага апарата і інш. *Звяртацца: 246012, Гомель, а/с 147.*

● Мотаблок з прычапнымі.
*Тэл. у Глыбоцкім раёне 3-55-59.*

● Дом у в. Рытань Астравецкага раёна.
*Звяртацца ў в. Гвазджікяны да Мазур Ірэны.*

● Кватэра 3-пакаёвая ў цэнтры Мядзела, тэлефон, лоджыя, падвал.
*Тэл. (8-297) 5-45-32.*

● Жаробка, узрост 8 мес. у в. Шляны Вілейскага раёна.
*Тэл. (8-271) 4-43-56, Шабан.*

● Халадзільнік, мотаблок, аўтапрычэп, д/каляска.
*Тэл. (8-01592) 2-16-60 — раб., 9-65-56 — хатні.*

● Дом у в. Лугі Лунінецкага раёна.
*Тэл. у Салігорску 2-29-32, 2-15-55.*

● Кватэра 1-пакаёвая, прыватызаваная, з усімі выгодамі ў г. Узда.
*Тэл. (8-264) 4-43-32, Гурын.*

● Недабудаваны дом (3 км ад Ушач).
*Тэл. (822) 62-43-06 пасля 17.*

● Кватэра 3-пакаёвая ў г. п. Карэлічы, 68 кв. м.
*Тэл. у Карэлічах 2-14-18.*

● Дом, абкладзены цэглай, з г/пабудовамі, участак 15 сотак у г. Вілейка.
*Тэл. (8-271) 5-22-82.*

● «ВАЗ-2103» 1976 г. в. у добрым стане.
*Тэл. (8-271) 5-28-04 пасля 17.*

● Аўтакунг да «ЗІЛа».
*Тэл. (8-274) 5-43-63 у раб. час, Галя.*

● Авечыя шкуры выробленыя, пафарбаваныя і не, машына вязальная 1-фантурная «Сільвер», танна.
*Тэл. (8-296) 2-10-88.*

● «ЗАЗ-968М», 30 к. с., 1987 г. в. або на з/ч — 100 у. а.
*Тэл. 8-22-993-4-86, 8-215-24-1-90.*

● Матацыкл «Мінск» 1992 г. в., у выдатным стане, прабег 70 тыс. км — 150 у. а.
*Тэл. (8-252) 2-40-66.*

● «ГАЗ-53» бартавы, 1975 г. в., танна, у в. Яскавічы Салігорскага раёна.
*Тэл. 7-86-02, Шэўчык.*

## РОЗНАЕ

■ Мяняю 1-пакаёвую кватэру ў Джанкоі (Крым) на Гомель ці іншыя гарады Беларусі, або прадам.
*Тэл. у Гомелі 8(0232) 48-94-78.*

■ Прапаную чарцяжы і кансультацыю па ўдасканаленню мотаблока «МТЗ». Проста і арыгінальна.
*Тэл. 290-72-01.*

■ Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Мядзелі (раён возера Нарач) з даплатай на 2-пакаёвую ў Мінску.
*Тэл. 231-82-86.*

■ Мяняю гараж у г. Гомелі на гараж у Мінску або прадам.
*Тэл. (8-292) 5-59-19.*

■ Куплю «МТЗ-80», -82.
*Тэл. (8-017) 258-34-64.*

■ Куплю касілку да «Т-25»; прадам бульбакапалку ротарную да «Т-25».
*Тэл. (8-212) 3-20-87.*

■ Куплю трактар «МТЗ-80», -82 б/к, «Т-25», -16, -40.
*Тэл. (8-017) 251-06-48.*

■ Куплю добрага каня (Валожынскі раён).
*Тэл. (8-272) 3-13-16.*

■ Куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, значкі, біноклі, старажытныя ўзнагароды.
*Тэл. 253-24-41.*

■ Мяняю дом у в. Леткаўшчына і 1,5-пакаёвую кватэру ў г. Слуцку на 3-пакаёвую кватэру ў Слуцку, магчыма даплата.
*Тэл. 2-19-90, г. Слуцк.*

■ Куплю трактар «Т-25», збожжаўборачны камбайн, кузаўныя з/ч да «ВАЗ-2103».
*Тэл. (8-256) 2-48-84.*

■ Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў г. Паставы на 2-пакаёвую у г. Маладзечна.
*Тэл. у Паставах 2-51-97, Дзіма.*

■ Куплю паперу для ксеракса Ф-А4.
*Тэл. 253-92-26.*

■ Шліфоўка і лакіроўка паркетных і дашчаных падлог (М. Горка).
*Тэл. (8-213) 5-04-12.*

■ Рашаю задачы фізіка-матэматычнага цыкла, паскораная падрыхтоўка па матэматыцы для паступаючых у ВНУ.
*Тэл. у Воранаве 7-11-59.*

■ Ксеракопія, Ф-А4, 800 руб.
*Тэл. 253-92-26.*

■ Мяняю каня, узрост 6 гадоў, вялікі, у в. Пунішча Лагойскага раёна на «МТЗ» або «Т-25».

**Даведкі аб размяшчэнні рэкламы ў «ЗВЯЗДЗЕ»**
**Тэл. 232-31-98**

**Кошт прыватных платных аб'яў і віншаванняў — 60 тыс. руб. Аплата на р/р 3012210270016 у КБ «Белбізнесбанк» у г. Мінску код 739.**

## Асабістае жыццё

**Аб. 672.** Пазнаёмлюся з жанчынай да 55 гадоў для стварэння сям'і.

Пра сябе: удавец, 57/175/85. Жыву ў сельскай мясцовасці Гомельскай вобласці. Матэрыяльна забяспечаны.

**Аб. 673.** Хлопец, 25/186, беларус, пазнаёміцца з жанчынай да 30 гадоў для стварэння сям'і, дзіця не перашкода (Мінская вобл.).

**Аб. 674.** Вольга, 23/160, добрая, памяркоўная, вышэйшая адукацыя, пазнаёміцца з мінчанінам 23—28 гадоў, які не злоўжывае спіртным.

**Аб. 675.** Пазнаёмлюся з хлопцам да 25 гадоў з Гродзенскай вобл. для сур'ёзных адносінаў ці для перапіскі.

Пра сябе: 19/164/65, Святлана, бландзінка.

**Аб. 676.** Пазнаёмлюся з сімпатычнай дзяўчынай ва ўзросце 23—25 гадоў для стварэння сям'і.

Пра сябе: 27/78/170, Віктар, без ш/з, Казярог, в/а., Гродзенская вобл. Пажадана фота. Адкажу ўсім.

**Аб. 677.** Пазнаёмлюся з жанчынай да 35 гадоў для сур'ёзных адносінаў, можна з дзіцем.

Пра сябе: 27/177, Альберт. Знаходжуся ў месцах пазбаўлення волі.

**Аб. 678.** Пазнаёмлюся з сумленным адзінокім мужчынам 50—56 гадоў з в/а, у якога сур'ёзныя намеры ў стварэнні сям'і. Судзімых і са ш/з прашу не пісаць.

Пра сябе: хутка 50, рост 160, сімпатычная, схільная да паўнаты, адукацыя вышэйшая, працую, удава. Жыву ў Іўеўскім раёне.

# АЙЧЫННЫЯ ВЫТВОРЦЫ РЫХТУЮЦЦА ДА МАСАВАГА ПАКАЗУ САВАЁЙ ПРАДУКЦЫІ

**У адпаведнасці з распараджэннем урада, з 7 па 10 красавіка ў выставачным комплексе па Машэрава, 14 будуць праведзены буйнейшая міжнародная прамысловая выстаўка «Белпрамэкспа-98» і другая міжнародная спецыялізаваная выстаўка «Рэсурса- і энергазберажэнне».**

Асноўная мэта выстаўкі «Белпрамэкспа-98» — прадставіць сучасныя тэхналогіі, абсталяванне і матэрыялы, якія выкарыстоўваюцца ў розных галінах народнай гаспадаркі. У выніку ўдзельнікі выстаўкі змогуць пасшырыць дзелавыя кантакты, заключыць прамыя дагаворы па рэалізацыі сваёй прадукцыі, а таксама набыць навейшыя тэхналогіі і абсталяванне для ўласнай вытворчасці. Экспазіцыя выстаўкі будзе прадстаўлена наступнымі напрамкамі: тэхналогіі, абсталяванне, інструменты і матэрыялы для машынабудавання, электратэхнічнай і прыборабудаўнічай прамысловасцяў, а таксама для прамысловасці будаўнічых матэрыялаў і лёгкай прамысловасці, вымяральная і кантрольна-рэгіструючая апаратура і інструмент; інструменты прамысловага і бытавога прызначэння, транспартныя сродкі, транспартуючыя ўстройствы і складскія сістэмы; ахова навакольнага асяроддзя; прамысловасць — малому бізнесу.

Найбольш шматлікай чакаецца экспазіцыя беларускіх прадпрыемстваў — у прыватнасці Брэсцкага электралямпавага завода, шчучынскага «Аўтапровада», мінскіх трактарнага і электратэхнічнага заводаў, аб'яднання імя Вавілава, віцебскага «Электравымяральніка» і іншых. Дзяржаўны камітэт па навуцы і тэхналогіях краіны выстаўляе новыя тэхналогіі і абсталяванне, інструменты і матэрыялы, распрацаваныя айчыннымі навуковымі ўстановамі.

Сярод расійскіх удзельнікаў, якія выказалі цікавасць да выстаўкі, — Серпухоўскі электрамеханічны завод (электрарухавікі сінхронныя для прыбораў і сродкаў прамысловай аўтаматыкі, калектарныя электрарухавікі пераменнага току для прыводу электракавамолак і бытавых швейных машын і іншыя вырабы), АТ «Цеककалмаз» (алмазны інструмент), маскоўскі «Манометр»...

Калі выстаўка «Белпрамэкспа» пераважна скіравана на больш поўнае выяўленне экспартнага патэнцыялу беларускіх прадпрыемстваў, то другая, «Рэсурса- і энергазберажэнне», вядома ж, — на расшырэнне крыніц і магчымасцяў па зберажэнню, і ў першую чаргу — энергазберажэнню, што асабліва важна для нашай краіны, якая здольна забяспечыць сябе паліўна-энергетычнымі рэсурсамі ўсяго на 13—15 працэнтаў. На стэндах будуць шырока прадстаўлены прыборы ўліку расходавання энерганосьбітаў розных прадпрыемстваў, рэгулятары спажывання энерганосьбітаў, цеплаабменныя ўстройствы і утылізатары цяпла і, вядома ж, новыя энергазберагальныя тэхналогіі.

Падчас выставак, 8 красавіка, пройдзе міжнародны сімпозіум «Тэхналогіі—абсталяванне—якасць».

Арганізатары выставак зацікаўленыя ў іх масавасці і папулярнасці. Найперш яны павінны надаць новы імпульс для руху прадукцыі беларускіх таваравытворцаў на замежныя рынкі.

## ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

**ВЕРСІІ**

**Вядомы прафесар-амерыканіст, прафесар Інстытута ЗША і Канады, аглядальнік дзяржтэлерадыёкампаніі «Голос России» Валянцін Зорын дае сваю версію — чаму ў Белым доме ўзняўся інтымны скандал і чаму ўвогуле здымаюць прэзідэнтаў.**

*Валянцін ЗОРЫН:*

# «Відавочна, што ў скандал з Клінтанам укладваюць вялікія сродкі ўплывовыя і багатыя людзі»

**— Валянцін Сяргеевіч, ці знаходзіце вы рацыянальнае тлумачэнне феномену: Амерыка, якая так клапоціцца пра свой імідж добра выхаванай пурытанскай нацыі, раптам апускаецца да непрыстойнага капання ў асабістай бялізне прэзідэнта?**

— Тут ёсць адно добра вядомае тлумачэнне. Памятаеце, адкрыццё айца амерыканскай журналістыкі Херста-старэйшага, якое ён сфармуляваў яшчэ ў мінулым стагоддзі: «Калі сабака ўкусіў чалавека — гэта не навіна. Вось калі чалавек укусіў сабаку — вось гэта навіна, гэтую газету я прадам». Мы ж бачым, што робіцца ў нашым друку і на нашым тэлебачанні — большую частку выпускаў прысвячаюць скандалам. Скандал — гэта рэйтынг. А за рэйтынгам стаяць грошы, рэклама, вядомасць і іншыя радасці жыцця. Для амерыканцаў яны значаць не менш, чым для нас.

І другое. Мне не хочацца абражаць амерыканскія палітычныя парадкі, я люблю гэтую краіну, але элемент ханжаства ўсё ж амерыканцам уласцівы. Своеасаблівы мазахізм цешыць іх нацыянальнае самалюбства — вось, маўляў, мы якія... У гэтым ёсць нейкае самалюбаванне, імкненне паказаць усёмагутнасць амерыканскай дэмакратыі, якая не спыняецца ні перад якімі фігурамі. З другога боку, тут ёсць элемент нейкай маральнай безадказнасці, пэўнай нясталасці.

**— У чым жа тады тайныя спружыны гэтага скандалу?**

— Гвалтоўнае, ці, скажам так, нядобраахвотнае зняцце кіраўніка Белага дома — гэта зусім не такі незвычайны выпадак у гісторыі Злучаных Штатаў Амерыкі. Не будзем забірацца ў мінулы век, успамінаць Лінкольна. Многім не вельмі памятнае прозвішча Уорэна Гардынга — прэзідэнта ЗША пачатку 20-х гадоў. Ён трапіў у вялікі нафтавы скандал. І здаровы малады чалавек раптоўна памёр — так дагэтуль і незразумела чаму. Было гэта ў 1923 годзе. Гісторыкі не заняліся і даволі дзіўнай гісторыяй смерці Франка Дэлано Рузвельта. Ён памёр у той самы момант, калі адпала неабходнасць у яго саюзніцкай палітыцы з Расіяй. Дапусцім, такое супадзенне можа быць у гісторыі. Але былі потым і іншыя дзіўныя рэчы — у прыватнасці, хуткае пахаванне без анатаміравання. Чаму? Як прафесар-амерыканіст, я бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што Рузвельт памёр пры нявысветленых абставінах. Ну а гісторыя забойства Джона Кенэдзі ўсім добра вядомая. Хоць не ва ўсіх падрабязнасцях. Джон Кенэдзі быў стаўленікам паўночна-ўсходніх «уолстрытаўскіх» банкаў. Ён замахнуўся на вельмі сур'ёзныя прывілеі нафтавых кампаній Тэхаса. На з'ездзе ў 1959 годзе, які павінен быў вылучаць кандыдатаў, пачалася бітва паміж стаўленікам банкаў Джонам Кенэдзі і стаўленікам тэхаскіх нафтавых каралёў Лінданам Джонсанам. Я быў на тым з'ездзе. Памятаю, як Джонсан, выступаючы з трыбуны, шчыра падзяліўся з дэлегатамі: «Вы ведаеце, мне сёння прысніўся сон — Бог з'явіўся да мяне і сказаў: «Ліндан, я назначаю цябе прэзідэнтам ЗША». Імгненна з залы пачуўся голас Джона Кенэдзі: «Ліндан, я нешта не памятаю, каб я назначаў цябе прэзідэнтам ЗША». Выбухнуўграмавы рогат у зале, і Джонсан яўна збянтэжыўся. Калі стала відавочна, што пазіцыі Кенэдзі мацнейшыя, быў заключаны кампраміс — ён вылучаецца прэзідэнтам, а Джонсан — віцэ-прэзідэнтам. Ракавы для Кенэдзі кампраміс. Пасля гэтага ў тэхаскім горадзе Даласе ён быў забіты, а на яго месца па Канстытуцыі прыйшоў віцэ-прэзідэнт тэхасец Ліндан Джонсан. Так што гісторыя зняцця з той ці іншай нагоды прэзідэнтаў, якія некага не задавальняюць, у Амерыцы мае сваю даўнюю традыцыю.

**— Але ўсе гэтыя зняцці, дакладней устараненні, былі звязаны ці з таямнічай смерцю, ці з адкрытым забойствам. Слова «імпічмент» не вымаўлялася.**

— Ён у амерыканскай практыцы ні разу і не ажыццяўляўся. У 1972 годзе здарыўся адзіны ў гісторыі ЗША выпадак зняцця прэзідэнта па закону. Але да самага імпічменту справа не дайшла. Калі стала ясна, што імпічмент непазбежны, Рычард Ніксан сам падаў у адстаўку.

**— Прычына імпічменту Ніксана добра вядомая — у штабкватэры дэмакратычнай партыі, якая з ім супернічала, былі знойдзены «жучкі» — падслухвальныя ўстройствы.**

— Тут кідаецца ў вочы адна вельмі важная акалічнасць — неадпаведнасць паміж параўнаўча дробнай прычынай і сур'ёзнымі наступствамі. У палітычнай практыцы Амерыкі, і, баюся, што не толькі Амерыкі, гэта абсалютна звычайная рэч. Нічога незвычайнага тут няма. Пакажыце мне тую краіну, дзе «жучкі» не ставяць. І вось з гэтага звычайнага выпадку быў раскручаны палітычны скандал, які прывёў да зняцця з пасады прэзідэнта ЗША.

**— Чаму?**

— Я лічу, прычына падобная на тую, што пазбавіла жыцця Джона Кенэдзі. Ён не задавальняў пэўныя магутныя групоўкі ЗША. Бо Ніксан, мабілізаваўшыся ў званні генерал-лейтэнанта, пачынаў сваю кар'еру асабістым сакратаром у прыёмнай у дырэктара «Бэнк оф Амерыка» — самага буйнога каліфарнійскага банка. Менавіта «Бэнк оф Амерыка» праз пэўны час вылучыў яго ў кангрэс і ў сенат, ён жа потым стаяў за ўсёй яго палітычнай кар'ерай, уключаючы і выбранне ў Белы дом. Але каліфарнійская група знаходзіцца ў вельмі жорсткай канкурэнтнай барацьбе з іншымі магутнымі групамі — уолстрыцкай і тэхаскай. А акрамя гэтага Ніксан не задавальняў і правыя колы Амерыкі. Бо гэта быў першы прэзідэнт, які паехаў у Пекін пасля многіх гадоў вострых адносін паміж ЗША і Кітаем. Ён зрабіў першыя крокі ў разрадцы. карацей кажучы, у яго былі палітычныя і эканамічныя ворагі, зацікаўленыя ў тым, каб звычайны выпадак быў раздзьмуты да ўзроўню скандалу.

Я тады знаходзіўся ў ЗША і бачыў яго зараджэнне ад маленькіх заметак у газетах да трагічнай сцэны развітання Ніксана на лужайцы з персаналам Белага дома, які ён пакідаў назаўсёды. Мяне тады займала тое ж самае пытанне — неадпаведнасці прычын і наступстваў. Я папрасіў тлумачэння ў аднаго ўплывовага сенатара, з якім мяне звязвалі шматгадовыя адносіны. Ён мне ў адказ расказаў анекдот. «У праўленні элітарнага клуба ідзе пасяджэнне. Старшыня праўлення гаворыць: «Джэнтльмены, нас чакае непрыемная працэдура выключэння з членаў клуба містэра Сміта». У паважаных членаў клуба шок. У чым справа? Містэр Сміт — дастойны чалавек. Як можна з ім так? Старшыня праўлення гаворыць: «Містэр Сміт парушае санітарныя нормы ў басейне нашага клуба». Джэнтльмены ўсё роўна не разумеюць. «Канешне, дрэнна, але ж падобнае робяць многія». Старшыня праўлення ўдакладняе: «Гэта робяць многія, але містэр Сміт робіць гэта з 10-метровай вышкі». Мне здаецца, гэтае параўнанне не толькі трапнае, але і даволі дакладнае з палітычнага пункту погляду.

**— І ў выпадку з Клінтанам кідаецца ў вочы тая ж неадпаведнасць паміж параўнаўча другараднай бытавой прычынай і вельмі сур'ёзнымі палітычнымі наступствамі. Зноў гучыць слова «імпічмент».**

— Будзе, не будзе ён — паглядзім. Але пытанне аб імпічменце ў палітычным жыцці Вашынгтона паўстала. Зусім відавочна, што гэта вельмі буйная палітычная кампанія. І вельмі дарагая. У гэтых дзвюх дзяўчат няма грошай, каб раскручваць яе. А гэта дзесяткі мільёнаў долараў. Відавочна, што ў скандал укладваюць вялікія сродкі ўплывовыя і багатыя людзі.

**— На гэты раз прычыны тыя ж?**

— Прычына цяпер іншая. Таму што сітуацыя ў краіне таксама іншая. У Амерыцы добрае эканамічнае становішча, мінімальнае беспрацоўе, адсутнасць расавых канфліктаў. І пры гэтым у рэспубліканскай партыі няма ніводнай значнай агульнанацыянальнай фігуры, вакол якой можна згуртаваць выбаршчыкаў. У дэмакратаў жа такая фігура ёсць — цяперашні віцэ-прэзідэнт Альберт Гор. Гэта чалавек з вельмі сур'ёзнай палітычнай рэпутацыяй і агульнанацыянальнай вядомасцю. Не выклікае ніякіх сумненняў, што кандыдатам ад дэмакратаў у 2000 годзе будзе менавіта ён. А ў рэспубліканцаў няма фігуры, якую можна яму процiпаставіць. Няма фігуры і няма праблем, вакол якіх можна весці кампанію. Але кампанію ўжо трэба распачынаць. Там усталявалася складаная сістэма выбараў. І вакол нечага нешта трэба раскручваць. Але паколькі праблем няма — іх трэба прыдумаць. Бярэцца такі бытавы факт, пакуль зусім не даказаны, укладаюцца ў гэта вялізныя матэрыяльныя і палітычныя сродкі і раздуваецца сусветны скандал, сведкамі якога мы з'яўляемся.

**— І апошняе пытанне. Вы сур'ёзна адносіліся да версіі аб тым, што вашынгтонскі скандал мог паўплываць на рашэнне адносна Ірака?**

— Мне здаецца, гэтае меркаванне вельмі павярхоўнае. Такія рашэнні грунтуюцца на значна больш сур'ёзных фактарах і прымаюцца не адным чалавекам. Якімі будуць дзеянні ў адносінах да Ірака мне сказаць цяжка. Але якога-небудзь сур'ёзнага значэння цяперашні вашынгтонскі скандал на дзеянні вакол Ірака наўрад ці акажа. Я асабіста перакананы ў гэтым. Так, прэзідэнт ЗША канцэнтруе ў сваіх руках беспрэцэдэнтную ўладу — фармальна, па канстытуцыі, ён з'яўляецца кіраўніком дзяржавы і кіраўніком урада, які адказны толькі перад ім, а не перад парламентам, ён можа назначыць і звольніць любога міністра, не ставячы гэта на галасаванне ў кангрэсе, ён з'яўляецца Вярхоўным Галоўнакамандуючым амерыканскімі ўзброенымі сіламі. У той жа час практыка паказвае, што ні адзін прэзідэнт ЗША прымаць аднаасобныя рашэнні па важных дзяржаўных пытаннях не можа.

Так што не юная паненка Левінскі вызначала — быць ці не быць амерыканскім ракетным ударам па Багдаду. Такую сувязь могуць выявіць толькі аналітыкі, прама скажам, дрэнна знаёмыя з палітычнай практыкай Амерыкі.

**Гутарыла**
**Ірына ПЕТРАКОВА,**
**уласны карэспандэнт**
**«Звязды» ў Маскве.**

777

# «Ключык» да фартуны — талісман

**Ва ўсе часы, калі вакол чалавека з'яўлялася шмат дрэнных прымет, ці ён ні з таго ні з сяго пачынаў сябе дрэнна адчуваць, ці збіраўся пачынаць якую-небудзь важную справу, чагосьці ці кагосьці баяўся, ён звяртаўся да дапамогі знешніх сіл — амулетаў або талісманаў, якія, на яго думку, павінны былі яму дапамагчы.**

Паміж амулетам і талісманам існуе пэўная розніца. Калі талісман спецыяльна вырабляецца для пэўнай асобы ў адпаведнасці з пэўнай сітуацыяй, то амулет — гэта проста рэч (кветка, расліна, костка жывёлы і г. д.), якой прыпісваюцца здольнасці прыносіць чалавеку шчасце ці адводзіць ад яго злыя сілы. Напрыклад, нашы продкі верылі, што той, хто носіць у абутку хмель, можа не баяцца сурокаў. «Дрэнныя вочы» адводзіць таксама ўваткнутая ў адзенне шпілька ці проста маленькі кавалачак жалеза, бо жалеза баяцца ўсе злыя сілы. Жанчыны з той жа мэтай спецыяльна надзявалі навыварат ніжнюю спадніцу, а мужчыны завязвалі пояс кашулі на тры вузлы. Калі нашы дзяды ішлі ў лес, то абавязкова бралі з сабой якую-небудзь жалезную рэч (сякеру, нож і г. д.), каб адвесці ад сябе злых духаў. Выпраўляючыся ў далёкую дарогу, добра было ўзяць з сабою ручнік (пажадана не белы, а вышываны), якім часта карыстаўся дома, — гэта павінна было садзейнічаць поспеху ў дарозе і абавязковаму вяртанню дамоў.

Адным з найбольш папулярных амулетаў з даўніх часоў з'яўляецца амулет шчасця ці ўдачы. Лічыцца, што гэты амулет у момант стварэння на лініі лёсу чалавека «развілкі» здольны зламаць сітуацыю на яго карысць. Праўда, прыцягваючы пры дапамозе амулета ўдачу для сабе, можна адначасова забраць яе ў кагосьці з навакольных. А гэта значыць, што пры выкарыстанні амулета ўдачы, скажам, для выйгрышу ў рулетку, за выйгрыш аднаго чалавека можа расплаціцца дарагой цаной іншы.

Значную ролю ў нашым жыцці адыгрываюць таксама стыхійныя амулеты, якія мы ствараем нават не здагадваючыся пра іх. Так, амулетам можа стаць звычайная галька, падабраная на беразе мора і пакладзеная ў кішэню. Пад уздзеяннем абставінаў (напрыклад, курортнага рамана ці вар'яцкага шанцавання) звычайная галька ператвараецца ў амулет. Штосьці падобнае можа адбывацца і з адзеннем, у якім студэнт здае экзамен. Паспяховая здача іспыту і эмацыянальны пад'ём як бы праграміруюць будучыя ўласцівасці новага стыхійна створанага амулета. Спецыялісты, дарэчы, раяць надзяваць перад першым экзаменам свежапамытую сукенку, а перад выхадам з дому паглядзець на сябе ў люстэрка: кажуць, што гэта дапамагае стварэнню амулета.

Цікава, што часцей за ўсё мы ствараем амулеты менавіта выпадкова, пры тых абставінах, калі адбываецца супадзенне чатырох неабходных умоў: неабходнага матэрыялу, неабходнага месца, неабходнага часу і адзінага дакладнага дзеяння. Але амулет можна таксама зрабіць і самому. Матэрыялам для стварэння амулетаў могуць паслужыць розныя металы, драўніна бярозы, сасны, дуба, ясеня, камяні, кераміка, футра ці скура, а найлепшым для нараджэння амулета лічыцца месца побач з агнём (свечкай, вогнішчам, камінам), вадой (морам, ракою, ручаём) ці люстэркам. Далей усё залежыць, у прынцыпе, ад умення стваральніка амулета дакладна фармуляваць свае думкі, пажаданы вынік і шляхі яго ажыццяўлення.

Ёсць, праўда, яшчэ адно немалаважнае правіла ўзаемаадносінаў чалавека і яго амулета — амулет павінен яму спадабацца, бо ў адваротным выпадку гэта рэч можа не толькі не дапамагаць, а, наадварот, шкодзіць чалавеку. Таму лепш ад яе як мага хутчэй пазбавіцца. Шкоду блізкім людзям здольны нанесці таксама выпадкова атрыманы амулет: калі вы заўважаеце, што з усёй сям'і шанцуе толькі вам, а ў астатніх справы не ладзяцца, уважліва перабярыце рэчы, якія вы набылі выпадкова, асабліва тыя, якія носіце пастаянна. Магчыма, што пад выглядам, скажам, бірулькі для ключоў вы атрымалі амулет удачы, які паслухмяна выконвае вашы пажаданні і адбірае ўдачу ў вашых блізкіх.

Трэба заўважыць, што існуюць пэўныя правілы і ў абыходжанні чалавека з талісманам. Самае галоўнае — для стварэння талісмана патрабуецца маг (знахар, чараўнік, чарадзей), які б знайшоў даволі «энергетычны» матэрыял для талісмана і ведаў бы пэўныя знакі і заклінанні, каб накіраваць яго моц у неабходным напрамку. Лепш за ўсё для талісманаў падыходзяць каштоўныя камяні, але можна выкарыстоўваць і штучныя, тыпу кварцу або фіаніту, ці ўвогуле іншы дастаткова трывалы і даўгавечны матэрыял. Сучасныя магі і экстрасенсы лічаць, што талісманы садзейнічаюць палярызацыі флюідаў, яны з'яўляюцца як бы кандэнсатарамі волі магаў. Прычым магічныя ўласцівасці талісманаў залежаць ад паўнаты адпаведнасці паміж імі і той асобай, якая іх носіць.

Калісьці вельмі распаўсюджанай у народзе была вера ў талісманы-пярсцёнкі, якія нібыта дапамагалі выклікаць узаемнае каханне. Яны выраблялiся з волава не проста для ўпрыгожвання, а спецыяльна дзеля пэўнай мэты. Талісманамі маглі стаць і звычайныя пярсцёнкі з золата, срэбра і г. д., але толькі калі над упрыгажэннем былі выкананы пэўныя магічныя рытуалы: над ім чыталі заклінанні, яго акраплялі святой вадой і акурвалі спецыяльным водарам. Напрыклад, каб выклікаць каханне, карысталіся дымам елкі або мяты, а для абароны ад сурокаў, «дрэнных» вачэй і чараўнікоў пярсцёнак акурвалі блёкатам.

Немалаважны для жадаючых заручыцца падтрымкай талісмана і наступны факт: знаўцы ўпэўненыя, што магічныя ўласцівасці талісманаў губляюцца, калі асоба, якой належыць талісман, перадае яго іншай асобе або каму-небудзь пазычае. Вось чаму талісманы, якія прадаюць за грошы розныя шарлатаны, ніколі не валодаюць магічнымі здольнасцямі. І апошняе правіла для тых, хто верыць у магутнасць талісманаў: талісманы ніколі нельга знішчаць.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# Старонка Паўла Глобы

**8 красавіка, СЕРАДА**

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Дзень сур'ёзны і строгі. Старанна абдумвайце ўсе свае дзеянні. Сачыце за словамі. Не давайце абяцанняў, пісьмовых абавязацельстваў, не трэба падпісваць доўгатэрміновыя дакументы. Аддайце перавагу індывідуальнай рабоце. Больш увагі ўдзяліце дому, сям'і, родным. Добра дарыць падарункі, выконваць просьбы, даравацъ крыўдзіцелям. Карысна ўспомніць нешта добрае са свайго мінулага, сямейныя традыцыі, памянуць продкаў, памаліцца за іх. Не рэкамендуецца гатаваць ежу: ядуць тое, што прыгатавана загадзя. Аддайце перавагу малочным прадуктам, кашам, злакам, адмоўцеся ад мяса і рыбы.

**ПРЫМЕТЫ**. Добрая прымета, калі сонца ўзыходзіць у смузе, — продкі абараняюць вас. Да вас у дом заходзіць хатняя жывёла, ці ваш сабака заліваецца брэхам — знак таго, што вас абараняюць продкі. Але дрэнна, калі сабака ляжыць пластом ці скавыча. Знайсці каштоўны камень ці пярсцёнак — да здзяйснення жадання. Камень выпаў з вашага пярсцёнка, ці вы згубілі пярсцёнак — знак сурокаў ці разбурэння сям'і. Зламаць зуб, пазногаць — да хваробы. Калі трэскаюцца шкляныя прадметы ці ў доме з'яўляецца трэшчына — знак сурокаў, разбурэння сям'і.

**СНЫ**. Прарочыя сны здзяйсняюцца не хутка. Убачыць дрэвы і кветкі — да шчасця, кахання, нечаканых набыткаў. Зоркі — да ўдачы і дабрабыту. Бачыць садавіну, агародніну, нешта есці ў сне — знак страты, разбіты лёс. Піць віно — да абвінавачанняў, паклёпу. Бачыць сябе голым — быць безабаронным, пакінутым.

**ЕЖА**. Добра есці больш расліннай ежы і зяленіва.

**АДЗЕННЕ**. Імкніцеся не апранаць шмат адзення. Аддайце перавагу зялёным тонам. Адмоўцеся ад жоўтага, аранжавага і чорнага колераў.

**МЕДЫЦЫНА**. Звярніце ўвагу на тонкі і тоўсты кішэчнік. Можна праводзіць касметычныя працэдуры, лячыць печань, чысціць кроў. Карысна піць настоі, адвары з траў.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-58, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносін — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 87.436. Індэкс 63850.
Зак. № 1873.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12